

Літаратура і мастацтва
газета творчай інтэлігенцыі Беларусі
5 ЛЮТАГА 1999г. № 6/3986 КОШТ 12 000 РУБ.



### БУДЗЬМА РАЗАМ!

*Шаноўныя чытачы!*

*Калі хто з Вас яшчэ не паспеў падпісацца на наш штотыднёвік, то гэта зрабіць можна і сёння. Кошт падпіскі на сакавік — 50 тысяч рублёў, на чатыры месяцы — 200 тысяч рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**



***6 лютага народнаму паэту Беларусі Аркадзю КУЛЯШОВУ споўнілася б 85. На жаль, ужо больш за дваццаць гадоў яго няма з намі. Сёння "ЛіМ" друкуе згадкі пра паэта і яго раней недрукаваныя, невядомыя вершы.***

Чытайце стар. 4, 6—7.



# КОЛА ДЗЁН

***На сённяшні дзень, так ужо склалася, у нашай краіне існуюць два Цэнтрвыбаркамы, якія адзін аднаго лічаць незаконнымі. Але, нягледзячы на гэта, яны актыўна працуюць: адзін рыхтуецца да выбараў прэзідэнта, другі — да выбараў у мясцовыя Саветы. Мяркуючы па настроях электарата, нашу краіну чакае бурная палітычная вясна.***

## ВІЗІТ ТЫДНЯ

У Мінску знаходзіцца місія Міжнароднага валютнага фонду. Галоўная мэта візіту экспертаў МВФ — вывучэнне грашова-крэдытнай сферы нашай краіны, а працсей кажучы — яны на месцы думаюць вырашыць пытанне: даваць Беларусі надзвычайны кампенсацыйны крэдыт у памеры каля 100 мільёнаў долараў ці не даваць? У сітуацыі, якая склалася ў краіне, 100 мільёнаў — гэта кропля для сасмяглай эканомікі, але сёння кожная кропля для нас вартая цэлага мора.

## ПРАЕКТ ТЫДНЯ

Праект закона "Аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1999 год" прайшоў этап разгляду "парламентам" у першым чытанні. У законе аб'ём даходнай часткі дзяржаўнага бюджэту плануецца па ўзроўні больш за 450 трл. рублёў, а расходнай — у памеры 416,52 трл. Даходы кансалідаванага бюджэту (разам з бюджэтамі мясцовых органаў улады) плануецца ў межах 685,5 трл. рублёў, расходы — 719 трл. У праекце закона з бюджэту дзяржавы на адукацыю выдзяляецца 4,82 працэнта грошай, на навуку — 2,22 працэнта, на СМІ — 0,77. На культуру і мастацтва... 0,46 працэнта.

## ПАРАЛЕЛЬ ТЫДНЯ

"Карціна ў многім напамінае сітуацыю пачатку дзевяностых гадоў, калі мінулы ўрад, сяк-так справіўшыся з мітынговымі страсцямі, супакойваў сябе тым, што мае падтрымку ў народзе. І, як вельмі хутка высветлілася, памыляўся. Першая ж выбарчая кампанія расставіла ўсё на свае месцы. Гісторыя можа паўтарыцца, калі і цяперашняя ўлада будзе дзейнічаць тымі ж метадамі". Так піша ў "Народнай газеце" Мікалай Шчэрбачэня пра мітынгі, арганізаваныя прафсаюзамі супраць росту цэн, зніжэння зарплаты і ўзроўню жыцця. У гэтай паралелі, як кажуць, нешта ёсць...

## АПЫТАННЕ ТЫДНЯ

Аналітычная служба "Зеркало" правяла сацыялагічнае апытанне мінчукоў накont таго, каму больш за ўсё яны давяраюць. Атрымаліся такія лічбы: 30 працэнтаў апытаных давяраюць царкве, 21 працэнт — Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і 18 працэнтаў — войску. 16 працэнтаў мінчукоў цалкам давяраюць Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) і прэзідэнту Беларусі, 15 працэнтаў — недзяржаўным тэлебачанню, радыё і газетам. Такія вось лічбы...

## СКАРАЧЭННЕ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што з 28 студзеня "Газпрам" скароціў пастаўкі на Беларусь прыроднага газу на 12 працэнтаў. Асноўнай прычынай скарачэння паставак газу, як лічаць у нашым урадзе, з'яўляецца павелічэнне яго спажывання ў Расіі, дзе апошнім часам у многіх рэгіёнах лютуюць маразы. І ўсё-ткі, была б у нас валюта, не было і праблем...

## "УЛОЎ" ТЫДНЯ

На пункце мытнага афармлення "Бераставіца" затрыманы грузавік "Сканія", які накіроўваўся ў Расію з Германіі. "Левага грузу ў ім аказалася на 28,8 мільярда беларускіх рублёў, альбо на 130 тысяч долараў па курсе Нацбанка. На такія "уловы" нашым мытнікам шанцуе нярэдка, але колькі "левага" грузу бесперашкодна праходзіць праз Беларусь — толькі аднаму Богу вядома.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Напрыканцы дваццатага стагоддзя не толькі высокаразвітыя краіны свету спазналі старэнне, але такая доля не абмінула і Беларусь. Так, у 1998 годзе ў нашай краіне пражывалі 2 млн. 176 тысяч чалавек, узрост якіх складаў 60 і больш гадоў, і 1 тысяча 111 чалавек, якія дасягнулі 100-гадовага ўзросту. Нехта можа, убачыўшы гэтыя лічбы, сказаць, што вось як доўга жывуць беларусы, але ў гэтых дадзеных няма нічога вясёлага. Наша краіна — старэе. Кажуць, што са старасцю прыходзіць мудрасць. Хацелася б, каб так і было.

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Ужо амаль чатыры гады ў нашай краіне ідзе налічэнне чэкаў "Маёмасць" і выдача сертыфікатаў. Нягледзячы на такі доўгі тэрмін, больш чым 2 мільёны грамадзян Беларусі ў прыватызацыі ўдзелу на прымалі. Чэкі "Маёмасць" колькасцю каля 430 мільёнаў штук атрымалі крыху менш як 5 мільёнаў чалавек. На цяперашні час амаль 120 мільёнаў чэкаў абменена на каштоўныя паперы, а астатнія 310 мільёнаў усё яшчэ застаюцца ў людзей. У друку з'явіўся напамін, што згодна з дзеючым законам тэрмін абарачэння чэкаў завершыцца 1 ліпеня 1999 года. Часу зусім нямнога, але ён яшчэ ёсць. Ды ўсё ж, была б вялікая карысць ад чэкаў, то іх ніхто б не трымаў у сябе, а пусціў бы ў справу. А так, відаць, гэтыя чэкі для большасці людзей — звычайныя каляровыя паперкі. І тут ужо напамінай ці не напамінай, мала хто аб іх паруліцца...

## ЦАНА ТЫДНЯ

Апошнім часам многія людзі ходзяць у крамы не толькі, каб нешта купіць, але каб і паглядзець на тое, што прадаецца і па якой цане. А таму даўно ўжо нельга нічога купіць за 1000 рублёў. Але калі ў вас ёсць і 1 мільён 620 тысяч, то вы ў некаторых крамах сталіцы можаце спакойна набыць кілаграмчык сыравяленай каўбасы. А на рэшткі пенсіі — яшчэ паўкіло.

# Заява
## рады Саюза беларускіх пісьменнікаў

25 снежня 1998 года прэзідэнты Беларусі і Расіі падпісалі ў Маскве заяву і дэкларацыю пра аб'яднанне дзвюх краін у так званую "саюзную дзяржаву". Разглядаем гэты акт як рэальную пагрозу дзяржаўнай незалежнасці Рэспублікі Беларусь. Стварэнне адзінай расійска-беларускай дзяржавы будзе значыць на практыцы далучэнне Беларусі да Расіі.

Змяненне дзяржаўнага статуса Рэспублікі Беларусь з'яўляецца нічым іншым як ігнараваннем яе нацыянальных інтарэсаў і не можа лічыцца легітымным, бо супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

Будучыню нашай Бацькаўшчыны мы бачым у незалежнай, дэмакратычнай, нейтральнай і бяз'ядзернай Беларусі. Толькі ў такой дзяржаве беларускі народ атрымае магчымасць годнага жыцця. Як сказаў яшчэ 80 гадоў таму Янка Купала: "Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу".

**Прынята 27 студзеня 1999 года**

**P.S.** Рада Саюза беларускіх пісьменнікаў даручыла апублікаваць тэкст прынятай Заявы кіраўніцтву пісьменніцкай арганізацыі. Ні мной асабіста і нікім з намеснікаў старшыні Саюза пісьменнікаў зрабіць гэта нікому не перадаручалася. Тым не менш без нашага ведама і без аніякіх каментарыяў тэкст Заявы з'явіўся ў газеце "Навіны", у рэдакцыю якой за маім подпісам быў адразу перададзены ліст наступнага зместу:

"У N 10 газеты "Навіны" за 29 студзеня 1999 года надрукавана заява рады Саюза беларускіх пісьменнікаў, прынятая 27 студзеня г.г.

Прашу даслаць на адрас Саюза беларускіх пісьменнікаў дакумент, на падставе якога з'явілася гэтая публікацыя".

Адказу не было і няма.

Справа не ў тым, што Заява надрукаваная з недакладнасцямі, яны неістотныя. Але ёсць жа — ці ва ўсякім разе павінны быць — нейкія правілы журналістыкі, не кажучы ўжо пра Закон аб друку. А тут нічога гэтага нібыта няма і, аказваецца, дакумент можна друкаваць без першакрыніцы, заяву грамадскай арганізацыі публікаваць проста з нечых слоў. Такі падыход да адказнай журналісцкай справы, выбачайце, па меншай меры непрафесійны, пра што я і вымушаны сказаць у друку, не дачакаўшыся ад рэдакцыі газеты "Навіны" ніякіх тлумачэнняў.

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

# На падтрымку культуры

Распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі зацверджана рашэнне савета фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы культуры і мастацтва аб выдзяленні сродкаў на выплату грантаў і ганарараў на стварэнне твораў культуры і мастацтва, набыццё інструментаў і матэрыяльных сродкаў для ажыццяўлення творчай дзейнасці, забеспячэнне ўдзелу творчых калектываў і асобных выканаўцаў у міжнародных фестывалях, правядзенне культурных акцый, аказанне разавай матэрыяльнай дапамогі, у якім гаворыцца:

**1. Выдзеліць гранты:**

Міністэрству культуры на стварэнне помніка А. Міцкевічу — у памеры 1 млрд. рублёў;

Мінскаму гарвыканкаму на ўстаноўку помніка А. Міцкевічу і добраўпарадкаванне навакольнай тэрыторыі — у памеры 1500 млн. рублёў;

Саюзу беларускіх пісьменнікаў на правядзенне Рэспубліканскага семінара маладых літаратараў — у памеры 330 млн. рублёў і Міжнароднага семінара перакладчыкаў з беларускай мовы на мовы народаў свету — у памеры 590 млн. рублёў;

Беларускай акадэміі мастацтваў на арганізацыю гастроляў студэнцкага тэатра па краінах Еўропы — у памеры 580 млн. рублёў;

Беларускаму інстытуту праблем культуры на рэалізацыю праекта "Адраджэнне беларускай дуды" — у памеры 484 млн. рублёў;

Беларускаму дзяржаўнаму цырку на правядзенне акцыі падтрымкі чалавечай годнасці для дзяцей-інвалідаў, прысвечанай Міжнароднаму дню інвалідаў, — у памеры 200 млн. рублёў;

Гродзенскаму абласному навукова-метадычнаму цэнтру народнай творчасці і культурна-асветнай работы на арганізацыю ўдзелу Дз. Я. Асімовіча, інваліда па зроку, у Міжнародным конкурсе невідушчых кампазітараў у г. Празе — у памеры 52 млн. рублёў;

Брэсцкаму абласному тэатру лялек на пастаноўку дзіцячага спектакля па п'есе С. Кавалёва "Братка аслянё" — у памеры 300 млн. рублёў.

**2. Выплаціць выдавецтву "Юнацтва"** ганарары для беларускіх пісьменнікаў за кнігі для дзяцей у памеры 1030 млн. рублёў.

**3. Выдзеліць сродкі:**

Беларускаму саюзу мастакоў на выданне альбома да 60-годдзя саюза — у памеры 1800 млн. рублёў;

Беларускаму універсітэту культуры на стварэнне аўтаматызаванай бібліятэчна-інфармацыйнай сістэмы вытворча-вучэбнага прызначэння — у памеры 4 млрд. рублёў;

Магілёўскай абласной філармоніі на набыццё музычных інструментаў для аркестра народных інструментаў — у памеры 2 млрд. рублёў;

Дзяржаўнаму акадэмічнаму сімфанічнаму аркестру Рэспублікі Беларусь Белдзяржфілармоніі на набыццё музычных інструментаў — у памеры 3 млрд. рублёў;

Дзяржаўнаму акадэмічнаму народнаму хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча на набыццё музычных інструментаў — у памеры 1 млрд. рублёў;

Дзяржаўнаму аркестру сімфанічнай і эстраднай музыкі Рэспублікі Беларусь на набыццё музычных інструментаў і радыёмікрафонаў — у памеры 2600 млн. рублёў;

Ансамблю салістаў "Класік-Авангард" Белдзяржфілармоніі на набыццё музычных інструментаў — у памеры 2 млрд. рублёў;

рэспубліканскаму вучэбнаму комплексу гімназіі-каледжу пры Беларускай акадэміі музыкі на набыццё музычных інструментаў — у памеры 3518 млн. рублёў;

выдавецтву "Юнацтва" на выданне зборніка камедый А. Дзялендзіка "Султан Брунея" — у памеры 380 млн. рублёў;

школе мастацтваў г. Шклова на набыццё музычных інструментаў для аркестра народных інструментаў — у памеры 500 млн. рублёў.




# У гасцях у пагранічнікаў

Актывізоўваюцца шэфскія сувязі пісьменнікаў з пагранічнікамі. Падпісана пагадненне аб творчым супрацоўніцтве СБП з Дзяржаўным камітэтам пагранвойск Рэспублікі Беларусь, на падставе якога пісьменнікі наведваюць пагранзаставы, выступаюць перад вартавымі граніцы, а ў выніку пішуць аб іх жыцці і службе.

Нядаўна група літаратараў наведала пагранічнікаў на Смаргоншчыне. У пагранічны атрад прыехалі старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў, яго намеснікі Навум Гальпяровіч і Уладзіслаў Мачульскі, а таксама пісьменнікі Алесь Махнач, Яўген Каршукоў, Анатоль Сульянаў і кампазітар Уладзімір Буднік. Сустрэлі пагранічнікі гасцей цёпла, паказалі гаспадарку, расказалі, як служыцца на беларуска-літоўскай мяжы. Пагранатрад існуе з 1992 года, але на яго рахунку, як паведаміў начальнік атрада падпалкоўнік Міхаіл Саладуха, нямала добрых спраў. У атрадзе служаць вопытныя афіцэры, прафесіяналы, за плячамі якіх гады службы на граніцы ў розных рэспубліках былога Савецкага Саюза. Да прыкладу, такія, як начальнік аператыўнага аддзела атрада падпалкоўнік Сяргей Страх. Дзякуючы менавіта яго аператыўна-разведвальнай дзейнасці была затрымана вялікая група нелегалаў афра-азіяцкага паходжання, а таксама папярэджана спроба незаконнай перавозкі буйной партыі спіртных напіткаў.

Надвячоркам пісьменнікі сустрэліся з пагранічнікамі ў клубе атрада. Адбылася цікавая размова. Чыталіся вершы, гучалі песні на словы Уладзіміра Някляева, Анатоля Грачанікава і іншых паэтаў у выкананні аўтара музыкі — кампазітара Уладзіміра Будніка.

На другі дзень госці з Мінска наведалі Смаргонскі вучэбны атрад якраз у час прыняцця маладымі пагранічнікамі вайсковай прысягі. Былі і іншыя сустрэчы, цікавыя, задушэўныя размовы з вартавымі граніцы.

Па дамоўленасці з кіраўніцтвам вучэбнага атрада неўзабаве літаратары зноў прыедуць сюды — прывязуць бібліятэчку мастацкай літаратуры вайсковай моладзі.

**Я. ІВАНОЎ**



*На здымку: пісьменнікі падарылі бібліятэцы пагранічнікаў кнігі.*

*Фота БЕЛТА*





## Паэтычная сябрына...



Так можна было назваць чарговую студзеньскую вечарыну, што адбылася ў "Беларускай хатцы". Паэтычны хаўрус удзельнікаў вечарыны быў па-сапраўднаму прадстаўнічы. Ад маладых, але папулярных сярод чытачоў — Алеся Бадака і Алеся Пашкевіча да народнага, ці, як прадставіў яго прыстуным гаспадар хаткі Эдуард Акулін, — "Роднага Беларусі паэта — Ніла Сымонавіча Гілевіча".

З цікавасцю ўспрынялі слухачы выступ А. Пашкевіча, які выявіў сябе адразу ў трох іпастасях: як вучоны (нядаўна ён абараніў кандыдацкую працу), як паэт (аўтар зборніка вершаў "Нябесная сірвента") і, як празаік (Алесь толькі што закончыў раман-дакумент пра Слуцкі збройны чын).

Не меншай увагай быў надзелены і А. Бадак — "бацька сучаснай беларускай папсы", як у жарт назваў яго вядучы вечарыны. І не беспадстаўна. Як прызнаўся сам Алесь у яго творчым арсенале больш трох соцень песень. А тое, што многія з іх заваявалі папулярнасць, сведчылі шматлікія цёплыя водгукі прысутных слухачоў-прыхільнікаў ягонай песеннай творчасці.

Без сумневу, "трыумфальным" можна назваць выступ Н. С. Гілевіча, які амаль паўтары гадзіны знаходзіўся ў прыемным для кожнага творцы слухацкім палоне. Гучалі новыя вершы. Гучыў балючы роздум Паэта і Грамадзяніна пра сённяшні дзень, пра стан беларускай мовы, пра нацыянальную трагедыю беларусаў, якія з-за сваёй духоўнай "блізарукасці" не заўважаюць самага страшнага, што можа стацца з любым народам, — свайго вымірання. Прычым, як фізічнага (вядома, што смяротнасць у Беларусі ў апошнія гады перавышае нараджальнасць), так і маральнага. Вынішчаецца, перасыхае сам народны дух... Але, як рэзюмаваў Ніл Сымонавіч — надзея памірае апошняй. І мы яшчэ, у гэтым ён цвёрда перакананы, здалеем "дайсці да Беларусі"... Не абышлося на вечарыне і гэтым разам без песні. Сямейны дуэт Акуліных пры шчырай падтрымцы гасцей выканаў песню "Як яна і я", якая стала своеасаблівай музычнай візітоўкай сяброў клуба "Беларуская хатка".

**Н. К.**

*На здымку: паэтычная сябрына — А. Бадак, Н. Гілевіч, А. Пашкевіч, Э. Акулін.*

*Фота С. ЛОЙКІ*

## У гонар Аркадзя Куляшова

У першай палове сакавіка 1999 года ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце адбудзецца Міжнародная навуковая канферэнцыя "Актуальныя праблемы беларускага літаратуразнаўства", прымеркаваная да 85-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Аркадзя Куляшова.

ПРАБЛЕМАТЫКА КАНФЕРЭНЦЫІ:

— Заканамернасці развіцця літаратуры Беларусі ў рэчышчы еўрапейскага літаратурнага працэсу XIX—XX стст.

— Вывучэнне творчасці А. Куляшова.

— Праблемы тэорыі літаратуры і літаратурнай крытыкі.

— Метадалогія вывучэння фальклор

— Мова мастацкай літаратуры і ідыёсты

*Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі, тэкст дакладаў і паведамленняў дасылаць на адрас: 212022 г. Магілёў, вул. Касманаўтаў, 1 — Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя А. Куляшова, кафедра беларускай літаратуры. Даведкі па тэлефоне: 8-0222-26-70-86.*

## Лаўрэаты "Беларускай думкі"

Рэдакцыйная калегія часопіса "Беларуская думка" вызначыла лепшых аўтараў найбольш сацыяльна-значных публікацый у 1998 годзе. Сярод лаўрэатаў "БД" — і пісьменнікі. Георгій Марчук, адзначаны за аповесць "Без ангелаў", Уладзімір Сауліч — за артыкул "Пераварот...", Анатоль Сульянаў — за артыкул "Парыж — заўсёды Парыж...", Іван Чарота — за артыкул "Ідэі агульнасці славян і Беларушчына".

# "На рубяжы апошніх дзён..."

**Апошняя суботняя раніца студзеня стала для мяне сенсацыйнай. Пачыналася яна звычайна і нічога асаблівага ад яе я не чакаў, бо апошнім часам няма адвык ад добрага, ад светлага, ад чыстага... Як, зрэшты, і ўсе мы. Праўда, на пісьмовым стале мяне чакаў даўно любімы куляшоўскі томік. Я разгарнуў яго колькі дзён назад, шукаючы верш паэта ў гэты нумар "ЛіМа", і вось да гэтага часу не магу выйсці з магутнага біяполя ягоных радкоў, у якіх арганічна зліліся ў адно паэзія і філасофія, чыстая шчырасць і высакароднае майстэрства, звонкая радасць і пякучы боль...**

**І таму калі зазвінеў тэлефон, я не стаў да яго спяшацца. Не мог. Але званок быў настойлівы. Так звоняць тады, калі ты некаму вельмі патрэбны. Я зняў слухаўку і яшчэ раз павярыў у тое, што на свеце ёсць Бог! Тэлефанавала дачка паэта.**

**— Алесь, я хачу прачытаць табе невядомы верш Куляшова. Называецца ён "Карусель".**

**— Валянціна Аркадзьеўна, дык я ж яго даўно ведаю. Гэта ж вядомы даваенны верш.**

**— Не, не ведаеш... Ад той "Каруселі" да гэтай — шлях у цэлае жыццё.**

**У ранішняй цішыні я слухаў нізкі голас Валянціны Аркадзьеўны, які "дзякуючы" прастудзе набыў ужо зусім бацькаў тэмбр.**

**Ад гэтай містыкі мяне ажно скаланула. Тое, што я адчуў, слухаючы новую "Карусель", цяжка адразу перадаць словамі. На гэта трэба час. Час асэнсавання невычэрпнай паэзіі Аркадзя Куляшова.**

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ,**
**лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова**

## Аркадзь КУЛЯШОЎ

●

*Не знішчыш дзён мінулых горыч.*
*Цяпер мінула ці даўно —*
*Не за плячыма і не поруч,*
*Заўжды ў табе жыве яно.*

*Не забываецца, як гора,*
*Твой даўні недарэчны крок,*
*Як быццам ты зрабіў учора*
*Яго — знарок ці незнарок.*

*А каб жа, каб па волі ўласнай,*
*Уладарнай сілаю рукі,*
*Мог сцерці ты, як з дошкі класнай*
*Сваіх памылак груз цяжкі:*

*Пакуты, горыч, што не могуць*
*Цябе пакінуць на зямлі,*
*Што не самохаць і самохаць*
*На плечы некалі ляглі.*

*Сумленна прагнеш сэрцам чулым*
*Ты першароднай чыстаты,*
*Але ў наступнае з мінулым*
*Сваім ісці павінен ты.*

*І позні суд твайго сумлення*
*Не дзейсны — не пазбавіць ён*
*Цябе ад цёмнага мучэння*
*На рубяжы апошніх дзён.*

### Попел

*Знікае гліна пад цяжкім каменнем,*
*І гіне цвет, які не стаў насеннем,*
*І зарастаюць раны горкіх дзён,*
*Дзе шлях пралёг шырокай паласою, —*
*Чаму ж няма для попелу спакою,*
*Навошта будзіць жаль і слёзы ён?*

*Ці гора на зямлі і так не досыць?*
*Што попел той сваім маўчаннем просіць*
*У гмахаў гэтых, ліхтароў і дрэў?*
*Ці не прасцей было б яму забыцца*
*Пра дым, з каторага не адрадзіцца*
*Былому свету, што ў агні згарэў?*

*А попел, попел, попел б'ецца ў грудзі,*
*Ён не астыў, яму няма, не будзе*
*Ні забыцця, ні сну ў зямлі сырой.*
*На дол, на лісце ён кладзецца дзесьці,*
*Як папярэджанне ці як прадвесце, —*
*Няўжо не чуеш ты трывогі той?*

*Ён над сумленнем лёг, нібы пагроза,*
*А мы, хто ран былых пазбыць не можа,*
*Страсаем з ботаў нашых грозны пыл,*
*Ці не таму, што горкі шлях не скончан,*
*Што будучых баімся крыватачын,*
*Спыніць якія мы не маем сіл?*

●

*Мяжа ўсяму наканавана,*
*Скарыся лёсу, не кляні*
*Таго, што запраграмавана*
*На справы ўсе твае і дні.*

*Я адкідаю немінучасць*
*І тым дарадчыкам скажу:*
*А што, як творчасць — ёсць рашучасць*
*Парушыць гэтую мяжу?*

### Карусель

*Дзе ж, дзе, майго дзяцінства коні,*
*Паскакалі без мяне куды вы?*
*Больш не чутна за спіной пагоні...*
*Дзе спынілі вы свой бег імклівы?*

*Шэрай, варанай, чырвонай масці*
*Даўняга дзяцінства пабрацімы,*
*Дзе вы зніклі, з марамі аб шчасці,*
*З сёдламі на спінах залатымі?*

*Што замоўкла, бітая дарога,*
*Што былыя сурмы не спяваюць?*
*Капыты драўляныя былога*
*З каменя агню не высякаюць.*

*Ох, негадаваны, незвычайны*
*Мой табун! Майго маленства коні, —*
*З памяці выходзьце, як са стайні,*
*Вось ён цукар на маёй далоні:*

*Як музыкі граюць, б'юць літаўры, —*
*Мабыць, "Ва саду лі ў агародзе", —*
*Паліцы ўгару ўзнялі кентаўры —*
*Кружыць барадатае страхоцце.*

*Ліхтары начныя свецяць збоку,*
*Прадаюць піражнае з бляшанкі, —*
*Выплываюць зданямі са змроку*
*І знікаюць зноў у змрок тачанкі.*

*У трамбоны дзьмухаюць салдаты,*
*Гоман грамады, як на вяселлі, —*
*Не забыць мне вас, маленства святы,*
*Іскры, бляскі, рытмы каруселі.*

*Коні, коні, мары парыванне,*
*Ваш стракаты рух, замкнёны колам:*
*Вечнае не скончыцца паланне,*
*Сонечным не сцерціся падковам!*

*Ухапіцца б мне рукой за грыву,*
*На сядло б ускочыць мне з разгону*
*І ляцець пад музыку імкліва,*
*І кружыцца б гэтак — аж да скону.*

*Каб плылі ў вачах гарачна плямы —*
*І нічога больш ужо ня трэба!*
*Ты ляціш над полем, над лясамі*
*І над гарадамі — проста ў неба.*

*Проста ў неба, што яшчэ не знае*
*Насланне, якое гібель сее,*
*Дзе зара адна, зара другая,*
*Нібы ў полі жыта, палавее.*

*Коні масці варанай, мышастай,*
*Не знікайце гучнаю чаргою.*
*Прыпыніся, мой табун грываcты,*
*І хутчэй вазьмі мяне з сабою.*

*Праплывае міма пабрацімства,*
*Коні, коні дыхаюць гарача.*
*Каруселі кружаць, а дзяцінства*
*Убаку стаіць маё — і плача.*

3 лютага 1978 г., Нясвіж

**Публікацыя**
**і падрыхтоўка да друку**
**Валянціны КУЛЯШОВАЙ**




# Аспект гэты — моўны

Спачатку дазволю сабе маленькае аўтабіяграфічнае адсутпленне. Нарадзіўся я пад Мінскам, мама мая руская, бацька — беларус. І хоць у большасці моў народаў свету родная мова значыцца як мацярынская, я лічу роднай беларускую мову, бо народжаны на гэтай зямлі і ўзгадаваны ёю.

Звярнуцца ж у газету прымусіў адзін аспект, які ўпускаецца пры ўсялякіх, у тым ліку нібыта і ўсенародных, абмеркаваннях і рэферэндумах пра лёс саюза Беларусі з Расіяй. І аспект гэты — моўны. Не фігуруе ён чамусьці ні ў праектах, ні ў шматлікіх падпісаных міждзяржаўных пагадненнях...

На слыху ва ўсіх беларуская талерантнасць, цярпімасць — рэлігійная, нацыянальная, моўная. Агульнавядома таксама, што ў Швейцарскай Канфедэрацыі чатыры афіцыйныя мовы: італьянская, нямецкая, рэтараманская і французская. Але чамусьці нікому з палітыкаў і юрыстаў, якія рыхтуюць дакументы па беларуска-расійскім саюзе, не прыйшло ў галаву адзначыць, што дзяржаўнымі ці хоць бы афіцыйнымі мовамі новага аб'яднання з'яўляюцца беларуская і руская мовы?! Што, панове інтэгратары, славянскае брацтва па-ранейшаму застаецца дэкларатыўным і ўспамінаць пра яго будуць толькі тады, калі гэта будзе выгадным?!

Далей. Практычна кожны беларус свабодна валодае мовай "старэйшага брата" (ці "сястры"?), а вось велікароса, які размаўляе па-беларуску, уявіць цяжкавата. Чаму, задаюся я пытаннем, Папа Рымскі Ян Павел II вітае католікаў на двух дзесятках моў (у тым ліку і на беларускай), а з вуснаў Ельцына або расійскіх дэмакратаў ні ў Белавежы, ні ў Мінску ніколі не пачулі мы ні "дзякуй!", ні "віншую!"?!

Я ўпэўнены — хоць сяму-таму гэта можа падацца абсурдным, — што беларуская і руская мовы належыць прызнаць у плануемым саюзе дзяржаўнымі. І дзяржчыноўнікі павінны вывучыць родную мову, калі яны гавораць пра братнюю дружбу і хочуць засядаць у мяркуемых саюзных установах.

**Уладзімір БУЛАЎСКІ,**
**каваль**

*г. Жодзіна*

І ПРА НАС

# Урокі польскага

## ЧАМУ ЯНЫ ПАЙШЛІ НАПЕРАД, А МЫ ТОПЧАМСЯ Ў КРЫЗІСАХ

***Польшча адмалілася, адмаўчала Каляды, адстраляла, як заўсёды, не без ахвяр, петардамі навагоднюю ноч і без раскачкі, без канікулаў пачала жыць у перадапошнім годзе Дваццатага стагоддзя. Блізкая змена тысячагоддзяў, вядома, асабліва займае розумы і сэрцы палякаў, аднак канкрэтныя іх думкі ўсё ж скіраваны на перспектывы бліжэйшага года.***

### Ад якога шоку лячыла “шокавая тэрапія”?

Галоўная падзея 99-га ўжо добра вядомая: у маі папа рымскі і ўсіх палякаў зноў наведае бацькаўшчыну, апублікаваны графік візіту Яна Паўла II і карта маршруту, ну а ў астатнім Польшча будзе жыць па бюджэце.

Не заглыбляючыся ў лічбы, усё ж назаву дзве галоўныя. Эканамічны рост па-ранейшаму відавочны. Гэтым разам ён складзе не менш чым 5 працэнтаў (з-за расійскага крызісу — на цэлы працэнт ніжэй, чым меркавалася). А інфляцыя абмяжуецца 8,8 працэнта за год.

Пан Кавальскі, улюбёны “сярэдні паляк” статыстыкаў, даўно праінфармаваны, як і калі падскочаць цэны на транспарт, энергію, спіртное і курыва. Не нашмат, трэба сказаць. Тым больш, што даходы Кавальскага павялічацца больш, чым цэны.

Цяпер Кавальскі-работнік рэгулярна атрымлівае зарплату ў 1360 злотых. Гэта 388,5 долара. Яго аднафамільцу-пенсіянеру — таксама, вядома, своечасова — выплачваюцца штомесячна 200 долараў, пры гэтым абодва яны, само сабою, не стамляюцца патрабаваць: плаціце больш!

У Польшчы даўно няма патрэбы шукаць прыкметы і доказы змен у лепшы бок. Проста жыццё ў выніку рэформ стала ўстойліва дабрабытным, і ўсе да гэтага прывыклі.

Эканамічная сітуацыя ў краіне стракатая. Гэта стракатасць няспыннага ажыўлення. Спажывецкі рынак насычаны цудоўнымі таварамі, і да большасці з іх прыкладзена рука польскага вытворцы. Якасць высокая. “Польшча перастала быць тварнай барахолкай, — сказаў мне мінулай восенню польскі бізнесмен N 1 Аляксандр Гудзаваты. — Наша фірма “Бартімпекс” пастаўляе ў Расію, напрыклад, швейныя машынкі “Лучнік”. Дзесяцігадовая гарантыя, сусветны ўзровень. Іншая справа, што да польскай прадукцыі ў вашай краіне сёйтой па інерцыі ставіцца як да чагосьці халтурнага, другасортнага. Але, спадзяюся, мы такіх пераканаем справай”.

Багаццем у магазінах расійцаў не здзівіш. Нязвычна іншае: хочаце купіць у салоне “Фіята” машыну? Калі ласка: усе “фіяты” — польскай зборкі. Тое ж самае — “дэу”, “форд”, многія іншыя. Выйшлі на гэтую дарогу “опель” і нават часткова “мерсэдэс”. Чыста замежнымі застаюцца французскія фірмы, “фольксваген”, японцы. І гэта тычыцца не толькі аўтамабіляў. Палякі смела ідуць на супрацоўніцтва з замежным капіталам. Хоць і тут чуліся галасы аб “распродажы радзімы”, аб неабходнасці “абароны айчыннага вытворцы”. Якім-такім распродажы? Якога менавіта вытворцы? З цягам часу палякі здолелі разабрацца ў сутнасці гэтых пытанняў. Пратэкцыянісцкія настроі засталіся галоўным чынам у дачыненні да сельскай гаспадаркі, засцярогі — у сувязі з жаданым (“і хочацца, і колецца”) будучым уступленнем у ЕС.

Бізун ЕС многім бачыцца больш рэальна, чым яго пернік. Адсюль — пратэсты і забастоўкі. Бастуюць сяляне, якія адчуваюць сваю ўшчэрбнасць, шахцёры і медыкі, якія настойваюць на зменах і больш высокіх заробках. Амаль увесь мінулы год на Цэнтральным вакзале ў Варшаве праводзілі ляжачую забастоўку бяздомныя. “Сёння — мы, а заўтра — любы з вас, палякі!” — абвяшчаў разасланы на падлозе плакат... Усё гэта, несумненна, ёсць у Польшчы.

Але калі вы думаеце, што польская пенсіянерка адмаўляе сабе ў асалодзе паласавацца вяндлінкай ці ласосінай, дык памыляецеся: купляе, і не толькі на свята. Яўгеній Прымакоў заявіў у снежні на ГРТ, што расійскі ўрад “будзе весці справу да сацыяльна арыентаванай эканомікі”. А ў Польшчы такая арыентацыя была і існуе як пры левых, гэтак і пры правых уладах. Узнікае містычнае ўражанне, што ў гэтай краіне любы ўрад перш за ўсё любіць свой народ, сваіх людзей. А то і пабойваецца іх. Клопат аб пенсіянерцы, аматарцы ласункаў, ці аб патэнцыяльным уладальніку “Опеля Астры”, сабранага ў горадзе Глівіцы, праяўлялі і праяўляюць і лідэр экс-камуністаў Лешак Мілер, і бацька “шокавай тэрапіі” Лешак Бальцаровіч.

Абодва Лешакі сыходзяцца не толькі ў імкненні ў НАТА і ЕС, але і ў тым, каб ва ўмовах рынку даць простаму паляку магчымасць, скажам, карыстацца разнастайнымі крэдытамі ці аблегчыць яму падаткавае ярмо, максімальна наблізіць да яго ўладу ў выглядзе самакіравання і змагацца з карупцыяй.

Дык у чым жа сакрэт польскага поспеху? Адказаць і проста, і складана. Не ведаю, якімі фактарамі вытлумачваюць яго шматлікія інстытуты рынкавай гаспадаркі, пераходнага перыяду ці параўнальнага аналізу эканомік былых сацкраін. Магчыма, яны яшчэ вынесуць свой вердыкт публічна, каб расійскі Іваноў-Пятроў-Сідараў зразумеў урэшце, дзе, хто і наколькі выпусціў шанец на ўсенароднае шчасце (ці хоць бы на прыстойную зарплату). Баюся толькі, што і гэты вердыкт не будзе бясспрэчным. Працуючы карэспандэнтам у Варшаве, я ў пошуках адказу цікавіўся: чаму ж так, пры роўных стартавых умовах, яны, палякі, ірванулі наперад, а мы ўсё выпраўлялі сітуацыю, стабілізаваліся, штогод абяцалі, што гэты год — “он трудный самый”, вось ужо... Гэта значыць, таўкліся на месцы, асуджана ідучы да немінучага краху.

— Чакай! — сказаў мне адзін з дарадцаў нашага пасольства ў Варашве. — Дык жа не было роўных стартавых магчымасцей. У палякаў іншы менталітэт, яны не надта каб і развіталіся з ідэяй прыватнай уласнасці, хінуліся да заходніх каштоўнасцяў. Таму рынак іх не раздавіў.

Істотнае меркаванне. Гэткай жа думкі прытрымліваецца і вядомы польскі эканаміст, які цікавіцца праблемамі Расіі, Украіны і Беларусі ў супастаўленні з Польшчай, прафесар Марэк Дамброўскі. Але ж напэўна ёсць і іншыя складнікі поспеху. Магчыма, у іх ліку нават славуты “польскі гонар”: палякі ў крызісных сітуацыях адчуваюць сябе адзінай нацыяй, і пры вызваленні радзімы з сацлагера яны ўзяліся ўсёй грамадою даказаць, што без СССР і камуністаў справяцца лепш, яны — палякі, еўрапейцы, цывілізаваны народ. Ці праклюнулася нешта падобнае ў рускага народа? Пытанне, бадай, не столькі для эканаміста, колькі для літаратара.

І чаму гэта нас рынак павінен “раздавіць”? Былі ж і ў Польшчы часіны, калі ў якой-небудзь “старэйшай пані” грошай хапала толькі на адно яйка, а паліцы крамаў былі застаўлены бутэлькамі з воцатам, і нічым больш!

“Шокавая тэрапія” ў рэшце рэшт вылечыла палякаў ад гэтага шоку. Таму, хто, нягледзячы ні на што, працягвае палохаць гэтым тэрмінам, запярэчыць вельмі лёгка: у труну дадзеная тэрапія сваіх пацыентаў не загнала, гэта ўжо адназначна. Перыяд рэцэсіі і росту інфляцыі доўжыўся два гады. І што ж вывезла Польшчу з ямы? Бальцаровіч? Псіхалогія нацыі, чыноўнікаў, улады? Гатоўнасць да рынку? Жаданне “адпомсціць” камуністам?

З гутарак, асабістых назіранняў і роздумаў складвалася калейдаскапічная карціна ўзаемасспляцення прычын і вынікаў, вялікіх і малых.

### Сто і больш прычын

1. “Стабілізацыйны фонд” у 2 мільярды долараў, прадастаўлены заходнім капіталам, жалезны Бальцаровіч так і не дазволіў крануць нікому! Польшча не пакарысталася крэдытам, сабралася з сіламі і вытрывала сама.

2. У Польшчы чамусьці не ўзнікае гаворкі, скажам, аб “памежным падатку” ці “падатку з продажаў” пры існуючым ПДВ (памятаем жа, што ім замянілі падатак з абароту). Рост цэн — так. Новыя падаткі — не. Наадварот, змяншэнне падаткаў як па іх колькасці, гэтак і па стаўках, увядзенне адзінага “лінейнага” падатку замест прагрэсіўнага, пры павелічэнні даходаў дзяржавы, — такая новая ідэя Бальцаровіча.

3. У Варшаве іншагароднія дэпутаты жывуць у сеймавай гасцініцы. За імі не пакідаюць службовыя кватэры, ім не даюць па 60 тысяч долараў на куплю жылля ў сталіцы. З заканчэннем тэрмінаў паўнамоцтваў яны безагаворачна і адразу ж вяртаюцца ў родныя мясціны. Дзесяткаў і соцень памочнікаў у іх таксама няма.

4. Толькі прэзідэнт і былыя кіраўнікі дзяржавы з гэтага часу будуць мець права на пажыццёвае медыцынскае абслугоўванне ў варшаўскай “крамлёўцы”. У мінулым годзе ў ёй “пасвілася” 20 тысяч пацыентаў, цяпер яны страцілі гэтую прывілею. І студзеня ўрадавая клініка на вуліцы Хожай зачынілася, яе трансфармуюць у Інстытут герыятрыі і геранталогіі.

5. У Польшчы няма пасады віцэ-прэм’ера па сацыяльных пытаннях, аднак жа з гэтае прычыны сацыяльная арыентацыя рэформ не перастае быць эфектыўнай.

6. Амаль з жыцця жывёл: “шокавая тэрапія” не была ў Польшчы “свяшчэннай каровай”. Яе карэктавалі. І запрэжаных “коней на пераправе” мянялі, не чакаючы пагібельных віроў. Пяць з гакам гадоў стабілізацыя ў Расіі выяўлялася ў нязменным прэм’ерстве Чарнамырдзіна, а прагрэс у Польшчы ажыццяўляўся і правымі, і левымі ўрадамі Сухоцкай, Паўляка, Алексы, Цімашэвіча, Бузэка.

7. У Польшчы, асабліва ў Варшаве, вялікае мноства гіпермаркетаў, у Маскве такіх проста няма. Айчынныя, нямецкія, французскія, аўстрыйскія. Уражвае нават не каласальны выбар тавараў, а мэта, накірунак: усё гэта для пана Кавальскага, а не толькі для ягонага багатага дзядзькі. Супермагазінаў для багацеяў, як і крамак для бедных, куды менш. З чаго, бадай, вынікае, што сярэдні клас (слой) насельніцтва ў Польшчы любімы і выпеставаны, яго падтрымліваюць, на яго арыентуюцца.

8. Заадно ў Польшчы створаны ў прынцыпе і стваральны клас фабрыкантаў, і законапаслухмяная, адказная дзелавая эліта.

9. Да пачатку трэцяга тысячагоддзя, гэта значыць, да 2001 года, вугальная галіна, якая зараз хварэе, перастане быць стратнай. На працягу чатырох гадоў развітаюцца з працай каля 100 тысяч шахцёраў. Ім прадаставяць сацыяльны пакет: пяцігадовыя адпачынкі, двухгадовыя дапамогі ці аднаразовую кампенсацыю — больш чым 10 тысяч долараў чыстымі. 20 тысяч чалавек ужо сваё атрымалі. Даўгі саміх шахтаў умоўна спішуць. Зрэшты, і гэтую ўрадавую праграму ў дэталях крытыкуюць “Салідарнасць” і некаторыя іншыя сілы.

10. Хоць і “не да канца” (у адрозненне ад паўднёвага суседа — Чэхіі, да поспехаў якой палякі ставіліся вельмі раўніва, а да ўзнікшых цяжкасцей — быццам чэхаўскія астраномы, што адкрылі плямы і на Сонцы, з пачуццём “бяспрыкладнага зларадства”), але ў Польшчы праведзена дэкамунізацыя. Апошнія крокі ў гэтым накірунку — ад закона аб Інстытуце народнай памяці, паводле якога кожны набывае права доступу да таемных папак камуністычных спецслужбаў, да рашэння міністра юстыцыі Ганны Сухоцкай аб пазбаўленні персанальных пенсій трынаццаці пракурораў-сталіністаў — зроблены ў снежні.

[...]

99. Да ўсялякага роду эканамічных рухаў у Польшчы ставяцца хутчэй асцярожна, чым рашуча. Дзеля гэтага ўтвораны, акрамя міністэрстваў, урадавы Камітэт праблем эканамічнага развіцця і няўрадавы, але з паўнамоцтвамі ўрадавага, Савет грашовай палітыкі. Тут зусім не гоняцца за тым, каб утрымаць што б там ні было курс злотага па адносінах да долара, не выкідваюць на гэта гіганцкія сумы. Ідзе плаўнае зніжэнне курса, яно і плануецца. Няма захлёбу ад абяцанняў, уласныя дасягненні ацэньваюцца крытычна, палякі “не хаваюць галовы ў пясок”. Уладу маючыя і прэса не стамляюцца паўтараць, напрыклад, што спажыванне расце занадта шпарка (у тым ліку за кошт масавасці і даступнасці ўсемагчымых крэдытаў), а гэта небяспечна. У той жа час палякі ведаюць і яшчэ адну азбучную ісціну: без тармажэнняў, перакосаў, без крызісаў — эканомікі, нават удачлівай, не бывае.

Але калі прэзідэнт Лукашэнка “суцяшае” беларусаў тым, што ў Польшчы быццам бы трагічная будучыня, паколькі вісіць доўг у 50 мільярдаў долараў, дык палякі, натуральна, агрызаюцца.

“Паўпраўда небяспечная, — піша ў адказ прафесар Вацлаў Вільчынскі. — Лукашэнка зусім не ўпамінае аб узроўні і высокіх тэмпах эканамічнага росту, інвестыцый, даходаў і спажывання, аб зніжэнні інфляцыі і стабільным злотым. Вядома, ён не гаворыць пра такія дробязі, як польскія валютныя рэзервы, якія складаюць 27 мільярдаў долараў і ў некалькі разоў перавышаюць расійскія, не кажучы ўжо пра беларускія. Польскі ж доўг — менш чым 50 працэнтаў ад ВУП, тады як Еўрасаюзам дапускаецца 60-працэнтны паказчык”.

100. Адток капітала з рэальнага ў фінансавы сектар, гэтаксама як і адток капіталу з краіны, у Польшчы не прэваліруе.

101. Улада ў Польшчы захоўвае прынцыпы і нормы прававой дзяржавы, адкрытага грамадства. Парушальнікі як агню баяцца галоснасці, бо пасля публічнага выкрыцця іх чакае не толькі “пераход на іншую працу”, але і немінучы суд.

### Спецыфіка як бар’ер

Пералічваць усё гэта і стамляльна, і крыўдна, і сорамна. Выдае на тое, што няма ў Польшчы загадкавай нядобрай сілы, якая робіць усё на шкоду народу. Выдае на тое, што няма і ўлады, якая пазбаўлена новых радыкальных і прадуктыўных ідэй, накшталт эрхардаўскіх ці бальцаровічаўскіх.

Джэфры Сакс, якога ў нас не вельмі шануюць (манетарыст, чыкагская школа і іншая “лаянка”), быў саветнікам віцэ-прэм’ера Бальцаровіча. Ён называе пяць апор “шокавай тэрапіі” — стабілізацыю, лібералізацыю, прыватызацыю, сацыяльную абарону і дапамогу Захаду. Пару гадоў назад ён лічыў у Польшчы найбольш моцнымі першыя дзве. “Прыватызацыя пасоўваецца занадта марудна, сацыяльная абарона не засёды ўдаецца”. А Захад, пісаў Сакс, замест таго, каб памагаць палякам, узводзіць на іх шляху пратэкцыянісцкія бар’еры.

Што сказаць пра гэтыя апоры ў дачыненні да Расіі? Чытач і сам ведае, што ў нас не мае моцы ніводная з іх. Хіба толькі дапамога Захаду, але й яна, як паказвае жыццё, не вечная. Ды, зрэшты, ці тыя апоры пералічыў ганарлівы амерыканец? У Расіі ж свая спецыфіка. У яе “особенная стать”, і ў яе можна толькі верыць. Усё ў нас атрымаецца, хоць “умом и не объять”, аніякім польскім аршынам Расію не змераць.

Шкада, што ў такім плане мяркуе пра Польшчу не толькі беларускі прэзідэнт. Тону ягоных ацэнак падпявала і ўсё яшчэ падпявае частка рускіх трыбунаў: “Польскім шляхам не пойдзем!”, “Польскі ўрок? Вучыцца няма чаму!” Можа, акурат таму мы гэтак мала ведаем, па сутнасці, пра польскі вопыт. Як і пра чэшскі, эстонскі, венгерскі. Мы больш ахвотна зазіраем далей, аж за акіяны — туды, дзе й сапраўды свая спецыфіка. Былыя “браты”, адштурхнуўшыся ад нашага з імі агульнага дна, апыньваюцца для рускага позірку як бы ў мёртвай прасторы.

**Леанід КАРНІЛАЎ**

*(“Литературная газета”, 13.1.99, N1—2/5728)*

*Аратыя смерці, каб больш не раслі*
*Сасна і бяроза.*

*Над імі ракетны ўзрываецца гук*
*І гул бамбавоза...*
*А што, як Зямлю нашу выпусцяць з рук*
*Сасна і бяроза?*

Паэзія была яго прызваннем. Паэзія стала прыстанішчам лепшых дум і спадзяванняў. Паэзія ператварылася ў чысцілішча, якое дапамагала пазбавіцца ад друзу паўсядзённасці. Але ж паэзія адбірала сілы і здароўе. Ды іншага жыцця ён не хацеў і не ўяўляў сабе, бо пры іншай "раскладцы" проста не было б... А. Куляшова. З'явіўся б нейкі іншы паэт. Таму і нёс свой крыж годна:

*Я — вязень твой, а ты — мая турма,*
*Асуджан я любоўю пажыццёва.*
*Зняволенне маё датэрмінова*
*Ты скараціць спяшаешся дарма.*
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Не можаш ты мяне пазбавіць мовы,*
*Змяніць мой лёс уладаю сваёй,*
*Не ты мяне абрала — вязень твой*
*Абраў цябе на тэрмін пажыццёвы.*
*("Да паэзіі")*

Жадаў такой самааддачы і іншым: "Спакойнага шчасця я не зычу нікому..." І горда трымаў у руках свой сцяг — сімвал жыццёвай і творчай перамогі і ўпэўненасці, вернасці і абавязку:

*Няхай злуюцца хвалі. Выклік смелы*
*Я пасылаю сам насустрач ім —*
*Свайго жыцця чырвоны сцяг. А белы —*
*Я пакідаю ворагам сваім.*

Творчасць А. Куляшова — адна з найбольш яркіх старонак у гісторыі беларускай паэзіі. Яна — састаўная частка таго своеасаблівага ланцуга, які ўтварыцца, калі паставіць поруч імёны Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Максіма Танка. Месца А. Куляшова, вядома ж, паміж Купалам і Танкам. Вядома, можна прыгадаць нямала і іншых таленавітых паэтаў, ды гэтыя чацвёра ўсё ж вылучаюцца. Яны нібы дрэвы-веліканы ў дружным лесе. Кожнаму ў ім ёсць месца, аднак позірк спачатку затрымліваеш на іх, бо яны быццам прыцягваюць да сябе, дзякуючы магутнаму сілавому полю.

Паэзія А. Куляшова належыць ужо не толькі нам, а і наступнікам, якім адкрываць яе нанава і па-новаму прачытваць. І гэтаксама любіць ягоную "Алесю", як палюбілі мы...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

старастам, не пытаючыся згоды на гэта. Ён, як потым стала вядома, не мог адмовіцца, а зрабіў так, як паказана ў камедыі Андрэя Макаёнка "Трыбунал": дапамагаў партызанам, перапраўляў ім падводы з мукой, іншымі харчамі. Ніхто пра гэта не ведаў, нават жонка. А пасля вызвалення з'явіліся на яго паклёпніцкія даносы, з аўтараў якіх асабліва вылучаўся былы начальнік МТС Падабед.

І ўсё ж бацьку Куляшова дазволілі выехаць з Хоцімска. Мы селі ў грузавік-палутарку. У кузаве знаходзіўся і сам сакратар райкома. Ды не паспелі ад'ехаць і пяці кіламетраў, як раптам машына спынілася сярод поля. З кабіны выйшаў Падабед і падаў каманду:

— Куляшоў, злазь! Машына з табой далей не пойдзе!

Я — анямеў. І Гурскі маўчыць, ні слова.

Аляксандр Мікалаевіч павольна пералазіць цераз борт.

— Тады і я не паеду, — кажу я і ўслед за Куляшовым злез таксама з машыны. Яна пайшла далей, да станцыі, а мы ўдвох засталіся сярод заснежанага поля.

На шчасце, праз некалькі хвілін да нас пад'ехаў на запрэжаным у сані кані мой добры знаёмы Курзянкоў, які працаваў старшынёй калгаса ў маёй роднай вёсцы. Ён падабраў нас і праз гадзіну ці паўтары мы былі на станцыі Камунар, узялі білеты да Мінска.

Не буду падрабязна расказваць, як ехалі ў халодным вагоне да Оршы, як рабілі перасадку, як правяралі дакументы міліцыянеры, і я выдаваў Аляксандра Мікалаевіча за свайго бацьку. Усё выратоўвалі мае дакументы і баявыя ўзнагароды.

Праз паўтара сутак усімі праўдамі і няпраўдамі дабраліся ў рэшце рэшт да Мінска. На пероне ўжо чакаў нас Аркадзь Аляксандравіч, бо атрымаў тэлеграму, якую я даў яму з Оршы. Перад вакзалам стаяла легкавая машына, якую паэт папрасіў у кагосьці. Мы паехалі на Беларускую вуліцу, да дома, у якім жыла сям'я паэта разам з сем'ямі многіх іншых пісьменнікаў і дзеячаў мастацтва.

За сямейным абедам ніхто нічога не гаварыў пра ростані і сустрэчы, толькі кожны радаваўся, што ўсёй сям'і Куляшовых нарэшце ўдалося спаткацца пасля доўгай і цяжкай разлукі...

Чамусьці пра ўсё гэта доўга не згадвалася. Пэўна, былі на тое прычыны. Ды сёння ўжо час іншы. А галоўнае — усё тое жыве ў душы: і адведкі Хоцімска, і паездка з прыгодамі ў Мінск, і вячэра за сямейным сталом у Куляшовых. І захацелася падзяліцца згадкаю з чытачамі. Тым болей — ёсць нагода: спаўняецца 85 гадоў з дня нараджэння Аркадзя Аляксандравіча Куляшова, нашага народнага паэта, а майго, у дадатак, яшчэ і земляка, роднага, блізкага, дарагога мне чалавека.

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА**



З Максімам ТАНКАМ. 1976 г.



З Піменам ПАНЧАНКАМ. 1975 г.



З Варленам БЕЧЫКАМ і Верай ВЯРБОЙ. 1972 г.



З Расулам ГАМЗАТАВЫМ. 1974 г.

*Фота Ул. КРУКА*

ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК
КРЫТЫКА

# Работа і насалода

*Ігар Жук. Сустрэчны рух. Літаратуразнаўчыя эцюды. Гродна. Абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, 1998.*

Нараканні на літаратурную крытыку ідуць не толькі звонку: ад скрыўджаных пісьменнікаў, але й знутры, ад сваіх жа калег па цэху. У некаторых акадэмічных навуковых колах здаўна ўтульна пачуваецца думка аб тым, што літаратуразнаўства — такая ж навука, як хімія, фізіка ці біялогія. І, адпаведна з тым, яно павінна быць найперш навуковым, а гэта значыць — дастаткова ўскладнёным, са сваёй спецтэрміналогіяй, хай сабе і малодаступнай неспецыялістам.

Тыя ж папулярныя эсэ, літаратурна-крытычныя развагі, эскізы ці накіды, якімі запоўнены старонкі нашых выданняў ад "ЛіМа" ды "Полымя" да "Крыніцы" ўключна, расцэньваюцца тут ні больш, ні менш як "літературный трёп", кажучы неперакладным расійскім словазлучэннем.

Дыскутаваць з такім меркаваннем не мае сэнсу. Але яно выяўляе адну досыць істотную тэндэнцыю ў нашым грамадстве і ў нашым мастацтве. Тую, якая цягнецца яшчэ з нашаніўскай пары, і заключаецца ў тым, што ў літаратуры мы самі сабе ствараем перашкоду, каб потым геройна яе перадольваць, бо ў нас, як павялося спрадвеку, колас важней васілька. Альбо, цытуючы з кнігі літаратуразнаўчых эцюдаў Ігара Жука, — "грамадзянская неабходнасць літаратуры чыніць вяршэнства над неабходнасцю эстэтычнай. Работа перамагае насалоду".

У творчасці І. Жука, на шчасце, захоўваецца раўнавага: работа і насалода суіснуюць на роўных правах.

Назва яго кнігі "Сустрэчны рух" — не проста прыгожая метафара, гэта найперш спроба самога аўтара здабыць ісціну з гістарычных, мастацкіх і палітычных урокаў гісторыі літаратуры.

Магчыма, гэта літаратуразнаўства новага часу, XXI стагоддзя, бо тут натуральна пачувае сябе нязмушанасць, раскаванасць, шырокая абазнанасць як у гісторыі сусветнага мастацтва, так і ў палітыцы, і ў складаных навукова-тэхнічных з'явах і вопытах ракетна-касмічнага веку.

Такі дыяпазон асацыяцый, алюзій, загадак патрабуе адпаведнай асновы, на якой ён мог бы арганічна рэалізавацца. І такой асновай можа быць толькі класіка: Янка Купала, Кузьма Чорны — творчасць якіх сваёй шматмернасцю сама па сабе стварае кантэкст, снуе ўзоры арыгінальных здагадак, трактовак, інтуітыўных прадчуванняў, якія потым выліваюцца ў індывідуальную канцэпцыю даследчыка. Як, напрыклад, у дачыненні да "Тутэйшых":

"Янка Купала як бы наперакор усёй літаратурнай традыцыі замахнуўся на нешта нябачнае, на тое, што ў беларускай літаратуры было яшчэ хіба "нулявым цыклам". Ён замахнуўся на стварэнне грандыёзнага, усеабдымнага, з відавочнай гістарычнай мінуўшчынай і відавочнай гістарычнай перспектывай вобраза **безнацыянала**.

Гэта пра Мікіту Зносака і ўсіх тутэйшых.

**Галіна ТЫЧКА**

# Лаўрэаты "Вясёлкі"

Медаль імя Васіля Віткі атрымалі ў мінулыя гады паэт Іван Муравейка і празаік Уладзімір Ліпскі. Гэта не дзяржаўная ўзнагарода — яе ўручае штогод часопіс "Вясёлка" разам з прэміямі і ганаровай граматай. Прычым адзначаюцца не толькі лепшыя літаратурныя творы, але і малюнкі, песні.

Лаўрэатамі часопіса за 98-ы год сталі Сяргей Грахоўскі (за цыкл вершаў) і Алена Лось за мастацкае афармленне некалькіх нумароў.





# “Казкі пра Несцерку”

**Любімы герой беларускага народа і нацыянальнага фальклору Несцерка прыцягвае ўвагу многіх пісьменнікаў. Не выключэнне — і Георгій Марчук. Пісьменнік, узяўшы персанажам сваіх казак Несцерку, быў далёкі ад жадання паўтараць знаёмыя сюжэтныя хады, няхай і ў новым асэнсаванні. Герой казак дык добра вядомы, а вось тое, што адбываецца з Несцеркам, — плён шчодрай фантазіі аўтара. У гэтым маглі ўпэўніцца чытачы, якія пазнаёміліся, у прыватнасці, з кнігай Г. Марчука “Казкі”, выпушчанай выдавецтвам “Полымя” ў 1996 годзе. У зборніку былі прадстаўлены і іншыя творы (нават як асобны раздзел кніжка казак “Жылі-былі дзед Васільчык і баба Кацярына”, што пабачыла свет у 1983 годзе), але першы яго раздзел называўся “Несцерка”.**




**Кніга “Казкі” і пакладзена ў аснову выдання, якое з'явілася ў перакладзе на македонскую мову. А паколькі яна называецца “Казкі пра Несцерку”, дык гісторыі пра гэтага дасціпнага беларуса, які з гонарам можа знайсці выйсце з самага складанага становішча, заўсёды праяўляе кемнасць, вытрымку і за словам, як кажуць, у кішэню не лезе, займаюць асноўнае месца.**

**Першай, як і трэба было чакаць, стаіць казка “Як нарадзіўся Несцерка”. Македонскія дзеці з цікаўнасцю адкрыюць для сябе беларускую зямлю. І даведаюцца пра яе праз Несцерку: “Даўным-даўно ў царстве, дзе ў лапцях хадзілі, бульбу елі ды песні спявалі, жыў-быў не кароль, не царэвіч, не прынц з прынцэсай, а дзядзька Бабыль. Не зусім адзінокі. Была ў яго і жонка. Хатка яго стаяла за Сожам і Дняпром, паміж Прыпяццю і Дзвіной, адным словам, непадалёку ад Нёмана”.**

**Наступныя казкі — “Несцерка і Чорт”, “Несцерка — кухар”, “Карыта з чырвонцамі”, “Як падманулі Несцерку”, “Як Несцерка французам рыбу лавіў” (у перакладным варыянце слова “французам” адсутнічае) і іншыя — паглыбляюць уяўленне чытача аб звычаях, традыцыях нашай краіны, дазволяць лепш упэўніцца, наколькі наш народ вясёлы, дасціпны, не баіцца ніякіх цяжкасцяў.**

**Аднак гістрыямі пра Несцерку змест кнігі не абмяжоўваецца. Са зборніка “Казкі” для перакладу ўзяты і іншыя творы Г. Марчука. Сярод іх і такі вядомы, як “Чаканне Тэафіла”, з якім беларуская дзятва знаёма па спектаклях. Сучаснасць прысутнічае ў казках “Як Васілёк ездзіў у госці”, “Шчупак”, “Ці кормяць ваўка ногі”, “Кот і певень”...**

**Усяго 16 твораў, а ў выніку кніга Г. Марчука стала для македонцаў свайго роду і візітоўкай Беларусі. “Казкі пра Несцерку” — увогуле першая беларуская аўтарская кніга, якая пабачыла свет у Македоніі. Канечне, творы нашых аўтараў перакладалі на македонскую мову і дагэтуль, але гэта былі публікацыі ці ў перыёдыцы, ці ў калектыўных зборніках.**

**Нельга не сказаць “дзякуй” дырэктару выдавецтва “МИ-АН”, якое і дало зялёнае святло творам Г. Марчука. Дырэктар выдавецтва Еван Паўлоўскі — вядомы македонскі пісьменнік, былы сакратар рады Саюза македонскіх пісьменнікаў у свой час працаваў у Маскве ўласным карэспандэнтам Македонскага тэлеграфнага агенцтва, добра знаёмы з лепшымі набыткамі літаратуры колішніх саюзных рэспублік. Дый і перакладчыкі — Ганна Няверава і Піліп Хрыстаў — цудоўна ведаюць творчасць нашых вядучых пісьменнікаў. У прыватнасці, Г. Няверава з'яўляецца аспіранткай у горадзе Скоп'е, сталіцы Македоніі, а яе маці Наталля Няверава выкладае ў мясцовым універсітэце курс славянскіх моў.**

**І яшчэ прыемная навіна: калі ў Македоніі праводзіўся тэндар падручнікаў, дзеці гэтай краіны сярод іншых вылучылі “Казкі пра Несцерку” Г. Марчука. Цяпер гэтая кніга ўключана ў школьныя праграмы.**

**Лявон ЮРЧЫК**

ПАЭЗІЯ

Ніл ГІЛЕВІЧ



# “Пад горкі посмех Бога”

## *Балада пра паэтэсу*

*Паэтэсе, з небам і аблокамі*
*У душы і з сонцам у крыві,*
*Гарсавет кватэрку даў у цокалі,*
*Падміргнуўшы: “Радуйся й жыві!..”*

*Па чужых прытулках набадзяўшыся,*
*Адцярпеўшы не адзін гадок,*
*Паэтэса з радасці і ўдзячнасці*
*Плакала: “Нарэшце свой куток!”*

*Ды і госці, калі ў шчочку цмокалі,*
*Удавалі шчырасць на губе:*
*“А ты знаеш: хоць сабе і ў цокалі,*
*А кватэрка ўтульная ў цябе.*

*І калі падумаць, дык для творчасці,*
*Для натхнення — гэта нават лепш:*
*Чым глыбей у падзямеллі скорчышся —*
*Тым вышэй у неба пойдзе верш!..”*

*Так, натхненне мераецца ўзлётамі,*
*Але скора стала ясна ёй:*
*Гэта страшная няўдача ўсё-такі,*
*Што акно — над самаю зямлёй.*

*Сядзе да стала, разгорне сшытачак,*
*Стане думкай рвацца ў шыр-разлог,*
*А ў акне, наўзроўні воч, за шыбамі —*
*Ногі, ногі, ногі... — безліч ног!*

*Раз за разам сцежкаю дваровую,*
*Паўз яе акно, туды-сюды,*
*Ногі ў вобуі прамаршыроўваюць,*
*Уціскаючы ў зямлю сляды.*

*Іншы раз яна ажно злякаецца —*
*Калі здасца, што вось зараз бот*
*Ступіць ёй на стол, засланы скацеркай,*
*На чароўны плён яе турбот.*

*Паэтэса, з небам і аблокамі*
*У душы, змірыцца не магла,*
*Каб на мары наступалі ботамі*
*Скрозь празрыстую лісціну шкла.*

*Гэта мучыла яе, даводзіла*
*Да нервовых стрэсаў, і не раз*
*Да людзей яна з акна выходзіла:*
*“Вось як зручна мне! Вітаю вас!”*

*Калі рэчка слёз яе ўжо высахла,*
*Роднае начальства ў рэшце рэшт*
*Ёй кватэру ўзычыла так высака —*
*Каб ніякі бот не стаў на верш.*

*Паэтэса засяліла рэчамі*
*Новае, высотнае жытло,*
*І адчула: не хапае нечага —*
*Нечага з таго, што там было.*

*На балкон з ружовай абліцоўкаю*
*Выйшла раніцою, як у сне,*
*І забыла, што яна не ў цокалі,*
*Не на тым падземным цёмным дне.*

*Абхапіла пальцамі ажурную*
*Чорную парэнчу з чыгуна,*
*І ступіла прама ў неба хмурнае —*
*Як калісьці да людзей з акна.*

1998, снежань

## *У сне*

ЛІРЫКА-ПСІХАЛАГІЧНЫ ЭЦЮД

*Ты ў сне была... У сне... У дзіўным сне,*
*Які цягнуўся... Ах, зусім нядоўга!*
*Вы — побач, блізка-блізка, дзесьці долках,*
*На нейкай пасцілцы... А можа, й не.*

*Ён так глядзеў мальбоўна!.. Нечакана*
*Яго рука, па-гаспадарску дужа,*
*Лягла на... “Не-не-не!” — ты закрычала,*
*І сон імгненна абарваўся тут жа.*

*Яшчэ ў бяспамяцці амаль, ты марна*
*Як бы чагосьці шукаеш на грудзях.*
*А дзе ж рука, што так лягла ўладарна?*
*Няма? А дзе ж пагляд? Дзе той пагляд?*

*Наўкола цемра і нічога болей.*
*Нібы наіўнае дзіця малое,*
*Ты падгарнула чуць вышэй падушку,*
*Уткнулася ў яе і моцна-моцна*
*Павекі сплюшчыла — у спадзяванні,*
*Што сон прадоўжыцца, салодка-вабны,*
*З паглядам тым мальбоўным, і з рукой,*
*Што... Ну і хай! Ну хай сабе і ляжа —*
*Там, дзе хацела легчы да прабудкі.*
*Ну хай! Ну хай!.. Але... Ах, божа мой!*
*Сон не вяртаецца, не прадаўжаецца!*
*І вочы ўжо расплюшчваюцца самі,*
*Няўцямна ты глядзіш у цемру з жаласцю,*
*І толькі чуеш — сполахі па целе,*
*Як лёгкі ток. Ды сэрцайка трымценне...*

*Ну, не бядуй занадта! Ну, нічога!*
*Хоць сон, і нават самы дарагі,*
*Тускнее ў памяці праз дзень-другі, —*
*Падумай зрэшты, што і сна такога*
*Магло не быць. Зусім не быць! І ты*
*Не ўбачыла б таго пагляду-крыку,*
*І не адчула б той рукі ўладарнай...*
*А ты ж пабачыла! А ты ж адчула!*
*Няхай і ў сне — а ўсё-такі, а ўсё ж...*
*Дык вось і помні! Аж да тога сну,*
*З якога ў яву людзі не вяртаюцца.*

1998

## Сямірадкоўі

•

*Як стары марак на мора з берага,*
*Ты глядзіш удаль з пагорка белага,*
*На прасцяг, знаёмы да драбніц:*
*Вось — зямля, якой не разлюбіць*
*І ў якой ніколі не зняверыцца!..*
*Ты — заплакаў? Значыць, так і быць.*
*Значыць, лёс не здрадзіць, не адвернецца.*

1998—1999

•

*Прачнуўся, змучаны кашмарным сном,*
*Ад каркання вароны за акном.*
*О Божа! Надта ж неяк падазрона*
*Яна крычыць наўпрост акна майго.*
*Аж вусцішна! Гэй, ты чаго? Чаго*
*Ты гэтак страшна каркаеш, варона?*
*Замоўч! На карканне тут забарона!*

1999

•

*Дзіўнае стварэнне — чалавек:*
*З году ў год, штодня, і з веку ў век —*
*Сам з сабой хітрue і хітрue...*
*Ну, ды скора, скора ўжо, здаецца,*
*Ён перахітрыць сябе самога,*
*І зямная куля застанецца*
*Без людзей. Пад горкі посмех Бога.*

1998

•

*Божа, я ўжо былых не ўзнаўлю*
*Яснадум, яснадзён, ясназорак,*
*І таму цябе слёзна малю:*
*Той, якую любіў і люблю,*
*Дай здароўя, адхланнасці дай,*
*І яе залаты адвячорак*
*Як мага надаўжэй затрымай!..*

1998—1999

## *На супакаенне паэту*

*Ты не бядуй,*
*Што з нянавісці*
*Нейкая жоўтая тля,*
*Вершы твае абмінаючы,*
*Пырскае злосцю здаля.*

*Плюнь і парадуйся з гэтага!*
*Значыць, на роднай зямлі*
*Шчырае слова паэтава*
*Не для пражэрлівай тлі.*

1998, лістапад

## *Уладзіміру Ліпскаму, аўтару кніг “Я” і “Аўцюкоўцы”*

*Бог табе аддзячыць,*
*Знаны шляхціц Ліпскі,*
*Што змясціў ты ў кнізе*
*Шляхты нашай спіскі.*

*Гэта ж колькі часу —*
*Цэлы век савецкі! —*
*Жыў я і не ведаў,*
*Што мой род шляхецкі.*

*Ну а ты пасведчыў*
*Дакументам з гербам,*
*Што мой дух ніколі*
*Не належыў смердам,*

*Што ў бацькоўскім краі,*
*І дасюль гаротным,*
*Корань мой адвеку*
*Быў высакародным.*

*З тога дня пачаў я,*
*Чым далей — тым болей,*
*Жыць і сілкавацца*
*Нейкай вышняй воляй, —*

*Той, што вынікае*
*З тытула самога,*
*Як бы я на трохі*
*Пабліжэў да Бога.*

*І сярод “пісакаў”*
*Стаў я чуцца іначай:*
*На таго, хто родам*
*Не з кагорты нашай,*

*Хто не варты духам*
*Ролі авангарднай, —*
*Стаў глядзець звысоку*
*І амаль з пагардай.*

*“Можа, ён і талент,*
*Сэрцам неашляхлы,*
*Але ж ён — са смердаў,*
*А вось я — са шляхты!*

*І яму не зведаць,*
*Што гэта такое —*
*Збуджанае ў генах*
*Крэда радавое...”*

*Дзякуй, што вярнуў мне*
*Тытул, пане Ліпскі!*
*Ды скажы: ты часам*
*Не зрабіў апіскі?*

*Можа, ў тых паперах,*
*Што ў архіве недзе,*
*Не зусім дакладна*
*Прозвішча разгледзеў?*

*Ці наогул, можа,*
*Злыдням на пацеху,*
*Ты мяне ў шляхецтва*
*Запісаў для смеху?*

*Ад цябе й такое*
*Льга чакаць, шаноўны,*
*Помнячы, што ў краі*
*Ты — аўцюк галоўны.*

1999



Фота В. Майсюка

ПРОЗА

Галіна БАГДАНАВА



# "ВОЖЫК"

ТАЯМНІЦА НАШАЙ ДУШЫ

*— Вожык, ты чаму калючы?*
*Гэтак колешся балюча?*
*— Бо ваўкі, лісы, мядзведзі —*
*не найлепшыя суседзі!*
(З беларускага "Буквара")

Ягоныя скульптуры, здавалася, былі не вылеплены, а высечаны, нават з такіх падатных, мяккіх гліны і пластыліну. Іх лёгка было пазнаць па неўтаймоўным рытме вострых вуглоў і ламаных ліній — насаджаныя вертыкальна косы касінераў, стрэльбы паляўнічых. Ды што там, нават паэт, нават Максім Багдановіч у яго цалкам пазбаўлены мяккасці і разважнасці — не помнік, а суцэльны камяк жывых нерваў. "Ён больш падобны на цябе самога, чым на Максіма Багдановіча...", — казалі ўсе ў адзін голас. Рэзкі паварот галавы, злом локця, імклівыя музычныя пальцы — усё, усё падначалена рытму "Пагоні" — акурат гэтага і ніякага іншага верша... І яна ж, гэтая "Пагоня", таксама ляціць, адлятае да зор... Адсюль, з зямлі зоры здаюцца халоднымі і калючымі.

Ну і хай сабе. Ён, Рыгор Кляшчук, ніколі, нават у далёкім маленстве, ніколі не марыў быць касманаўтам. Зоркі на тое і зоркі, каб быць далёкімі і недасяжнымі...

І раптам, для сябе самога нечакана, ён прывёз з бабулінай, цяпер ужо, пэўна, назаўжды закінутай, дамоўкі яблыневую галіну, без кветак, без лісця, без кары, — адно гладкае, як камень, маўклівае дрэва. Мама злавалася, казала: "Не бяры, у нас жа радыяцыя! Нам што, мы старыя, нам паміраць, а табе ж яшчэ жыць і жыць. У цябе ж дзеткі быць мусяць..." А ён не паслухаўся, і вось выразаў з той яблыневай галіны гэтую аголеную дзяўчынку з распушчанымі, вакол станіка абвітымі густымі косамі... І цяпер сядзіць у майстэрні і шліфуе, шліфуе яе да самазабыцця. Дзяўчынка-ікэбана. Яблынька ў мініяцюры. Ёй яшчэ квітнець і квітнець... І чаго б гэта ён раптам з гліны, каменю перайшоў на дрэва... Такое цёплае, мяккае, жывое... І чаго б гэта...

Гэтаю вясною ён перастаў бачыць сэнс у амаль штомесячных "ходках" на мітынг. І настаўнік, ягоны любімы настаўнік беларускай мовы і літаратуры, з якога ўсё і пачалося, цяпер вядомы паэт, з'ехаў за мяжу. А. В. Наш шаноўны А. В.

А. В. расказваў ім пра мову, як пра жывога чалавека, як пра жанчыну расказваў. І хто паверыць, што яны ў вясковай школцы ведалі не толькі пра "трасянку" і "афіцыёз", але і пра "тарашкевіцу". І мяккі знак уяўляўся ім дыяментам у яе кароне... А вечар Максіма Багдановіча... У якім гэта класе было? Сёмым ці восьмым?.. Яны са свечкамі ўзыходзілі на другі паверх, яны блукалі, як зоркі ў Сусвеце. І там, у аздобленым бялюткімі вышыванымі ручнікамі кабінеце, чыталі вершы і слухалі касеты з песнямі Данчыка. Далёкі і недасяжны, зорны голас... Гэта ён, А. В., убачыўшы, як ён, Рыгор, малюе, сам завёз яго ў сталіцу, пазнаёміў са сваім сябрам-мастаком, дапамог паступіць у мастацкую вучэльню, а потым і ў Акадэмію мастацтваў. Не, у акадэмію ён паступаў ужо сам, ён ужо ведаў, што будзе скульптарам...

Настаўнік таксама перабраўся ў сталіцу, выдаў некалькі цудоўных зборнікаў вершаў, а цяпер вось з'ехаў за мяжу. З'ехаў, нават не развітаўшыся.

І цяпер у ягоных, Рыгоравых руках толькі вось гэтая яблыневая дзяўчынка, васковая свечачка, поўная нязбытнай асалоды сама дасканаласць...

І тут раптам званок, рэзкі званок. І на парозе сястра, яго родная сястра Васіліна, якая цяпер вучыцца ў педвучылішчы і просіць хоць на людзях называць яе Лінай... Зноў стрыжаная, рудыя фарбаваныя валасы тырчаць у розныя бакі, вочы падведзены рэзка, з выклікам, вусны і пазногці яркія, "выврі вока"... А з ёю дзве пажылыя жанчыны, як і яна, яркія, фарбаваныя, у скуранках — у адной куртка, у другой плашч. У такую гарачыню — у скуранках... Ну проста камісаркі. Яны зайшлі і з аднолькавымі, ненатуральнымі, нацягнутымі ўсмешкамі, ад якіх яго заўжды проста блажыла, сказалі:

— Здравствуйте!

І Васіліна, якая з ім, і з ягонымі сябрамі гаварыла хаця б на "трасянцы", "зачирикала" таксама ненатуральна, нацягнута, няшчыра... Яна, як гаспадыня, пачала вадзіць жанчын па майстэрні, ад працы да працы, пачала тлумачыць, тлумачыць так, як яна сама разумела. І пра вылеплены з пластыліну вастраверхі гатычны касцёл, і пра выразаныя для гэтага касцёла з дрэва скульптуры святых, і пра Маці Боскую, і пра касінераў, і пра вершніка з мячом, і пра... Ён маўчаў, схаваў пад стол яблыневую дзяўчынку і, не ведаючы, дзе падзець рукі, у рэшце рэшт склаў, сашчапіў іх на грудзях і ўжо гатовы быў адключыцца, думаць пра сваё. Але Васіліна падвяла іх да Максіма Багдановіча...

— Это Богданович? Совсем не похож... — як яму падалося, скептычна, нават грэбліва сказала тая, што была ў доўгім скураным плашчы...

І ён не стрымаўся:

— А вы што, былі з ім знаёмыя?

— Нет. Но я же видела его на фотографии...

— А можа, гэта былі не ягоныя фатаграфіі...

А далей... Далей пачалося рэзкае і непрыемнае. Ён загаварыў сам. Ён пачаў расказваць ім пра Мінск, пра іхні ж Мінск, пра Нямігу, пра Траецкую гару...

— Як, вы ўсё жыццё пражылі ў Мінску і не ведаеце, дзе знаходзіцца Траецкая гара?! Ды як жа вам не сорамна! Дарэчы, а дзе вы працуеце?

— Мы педагоги...

— Ах, дык вы яшчэ педагогі! Чаму ж вы можаце каго навучыць?

— Нам не было кому рассказать обо всём этом...

— Ды я сам, я прыехаў з вёскі і сам вывучаў гісторыю, і Беларусі, і Мінска... А вы, педагогі, мінчанкі, і... Сорамна, проста сорамна!

Васіліна, апараная ягоным крыкам, знямела. Потым паспрабавала яго спыніць. Але ён ужо не мог супакоіцца і, пырскаючы слінай, размахваючы рукамі, не гаварыў, а крычаў пра тое, што калі нават педагогі не ведаюць і не хочуць ведаць сваёй гісторыі, яны ніколі не выхаваюць патрыётаў, проста нармальных людзей не выхаваюць, яны здольныя выхаваць толькі манкуртаў!

Жанчыны зачырванеліся, падціснулі вусны і, не развітаўшыся, пайшлі.

Васіліна вярнулася ў майстэрню літаральна праз некалькі хвілін, кінулася на канапу і расплакалася. Яна ўсхліпвала і, глытаючы словы, усё спрабавала нешта яму растлумачыць...

— Што ж ты нарабіў! Жорсткі, бессардэчны! Ды гэта ж загадчыца і метадыст з таго садка, куды мяне хацелі ўзяць на працу. Яны ж проста разгубіліся... Ты б чуў, як іх распякала інспектарка з райана за тое, што планы дасюль пішуць па-беларуску! Ты б чуў. Ды ў Мінску гэта можа адзіны садок, дзе сёння вывучаюць беларускую культуру, дзе ёсць "Беларуская хатка", вышываныя ручнікі і гліняны посуд, дзе гурток беларускай мовы працуе, дзе віктарыны па гісторыі і культуры праводзяць, дзе дзецям нават пра твае творы расказвалі... А ты...

Рыгор стаяў і не ведаў, як, чым яе супакоіць... Ды не, ён ужо нічым не зможа яе супакоіць. І тыя пайшлі пакрыўджаныя... Гэта ён — ад бяссілля, пэўна ж — ад уласнага бяссілля, сабе самому ён можа прызнацца ў гэтым... Сабе самому і больш нікому. Але як, што цяпер рабіць?.. А. В., так, гэта А. В. на нейкай вечарыне казаў, што дзеячы беларускай культуры, адраджэнцы, мусяць адчуваць сябе сёння не індзейцамі, для якіх трэба ствараць рэзервацыі, а атамамі, у якіх закладзена наймагутная сіла... Вось-вось, нервы ў яго сапраўды атамныя, і выбухнуў ён, як Чарнобыль...

Змяркалася. У майстэрню, хваля за хваляю наплывала задумлівае шэраблакітнае, вечаровае святло. Было ў гэтым святле нешта незямное, нешта касмічнае. І ягоныя скульптуры ператвараліся ў здані, строгія, калючыя здані. А Васіліна ўсё не падымалася, хліпала, ледзь чутна, але ўсё яшчэ хліпала. І ён стаяў, абапёршыся на стол: сашчапіўшы на грудзях рукі, не маючы сілы падысці, суцешыць, папрасіць прабачэння... А можа, ён проста баіцца, што Васіліна не захоча яго слухаць, зноў расплачацца, скажа яму нешта рэзкае, крыўднае, чаго ён ёй ужо ніколі не даруе...

Таму ён стаяў і ўспамінаў, як даўным-даўно, у маленстве, як бы нават у нейкім іншым жыцці, яны з Васілінаю, Васілінкаю, — у кароценькай сукенцы, з дзвюма смешнымі, тоненькімі коскамі, — пайшлі разам у лес па грыбы і сустрэлі вожыка. Ён чмыхаў, хаваў свае бліскучыя вочкі, сваю пыску ў іголкі, скручваўся ў клубочак, але яны ўсё роўна ўзялі яго ў шапку і прынеслі дамоў...

І калі вожык праз нейкі час усё ж даверыўся ім, калі ён піў са сподачка малако, яны з Васілінкаю паспрабавалі яго пагладзіць... І вожыка, аказваецца, можна пагладзіць, калі ён не натапырвае іголкі...

— Ты памятаеш, — Рыгор ажно не паверыў, што Васіліна паднялася, яна ўжо сядзела на канапе, — ты памятаеш, як мы з табою хадзілі ў лес і прынеслі дадому вожыка? Я, ведаеш, пра што падумала? Навошта тады мы занеслі яго назад, у лес? Усё роўна той лес потым засыпала радыяцыяй... І што там цяпер робіць наш вожык? За калючым дротам... Можа, аблез зусім. Аблазяць жа ад радыяцыі сабакі, можа, і вожык аблез... Уяўляеш, лысы вожык, без іголак, зусім не колецца...

— Каб вожыкі не каloліся, яны б даўно вымерлі. Нельга вожыкам не калоцца. Нельга...

— Ты таму не голішся? Зарос, як бомж...

Васіліна запаліла святло, яна, здавалася, ужо перастала злавацца. Але цяпер яму як ніколі хацелася, ён быў гатовы на каленях прасіць у яе прабачэння. І яшчэ... Ён зараз пакажа... Ён зараз ёй першай пакажа тую дзяўчынку, якую ён выразаў з атручанай радыяцыяй яблыневай галіны...

ПОШТА

Браніслаў ЕРМАШКЕВІЧ родам з Барысаўшчыны. Не абмінула хлапчука "ўвагай", як і шматлікіх ягоных равеснікаў, ліхалецце. Бязбацькавіч: бацька загінуў на фронце ў 1944-м. Амаль усё пасляшкольнае жыццё Ермашкевіча звязана з войскам. Службы далёка ад Беларусі: у Казахстане і Карэліі, на Далёкім Усходзе і Чукотцы, у Маскве і ГДР, і яшчэ і яшчэ... І неадступна за ім ішла надзея вярнуцца да зямлячага краю, яго звычаяў, да матчынай мовы. Цяпер жыве ў Гродне.

Уяўляю, як сёй-той мог бы паблажліва падміргнуць: маўляў, знайшоў сабе пенсіянер дачны занятак — рыфмуе! І памыліцца! Дазволю сабе заўважыць: перад вамі — не халоднае рыфмаванне, а покліч душы, вернутая нарэшце нeабходнасць крэўна выказацца.

**Юрка ГОЛУБ**

Браніслаў ЕРМАШКЕВІЧ

## Званы

***Я саборавы чую званы:***
***І гудзе несціханы набат.***
***Гэта гукі сівой даўніны***
***Даляцелі і клічуць нас з хат.***

***Крочаць поруч малы і стары.***
***Бог ім вочы раптоўна адкрыў.***
***І з няпамятнай даўняй пары***
***Ён саборы святыя стварыў.***

***Раніцою іду, ці з паўдня,***
***Як пакліча мяне Божы кут.***
***Сваю чашу там вып'ю да дна —***
***Век хачу свой дажыць без пакут.***

## Блізкае

***А сабе я на дарогу***
***Выбраў ношку па плячу***
***І прасіць на дапамогу***
***Анікога не хачу.***

***За сваім надзённым хлебам***
***З'ехаў аж на край зямлі.***
***Сябраваць з чукоцкім небам***
***Справы важкія вялі.***

***Калясіў па белым свеце —***
***Зведаў горыч і тугу,***
***Ды сваёй жа здрадзіць мэце,***
***Зразумеў, што не магу.***

***А цяпер у Прынямонні***
***Чарадой гады ідуць,***
***Хоць паўночных***
***ззянняў промні***
***Мне спакою не даюць.***

•

***На сустрэчу кліч рукою,***
***Усміхніся мне адкрыта.***
***Ты заўсёды будзь сабою —***
***А былое не забыта.***

***Тым жа летам кожны вечар***
***Мы былі з табою разам,***
***А затым, нібыта вецер,***
***Разляцеліся адразу.***

***Разнасцеж свае абдымкі.***
***Міла глянь ізноў у вочы.***
***Раскажы пра тыя думкі,***
***Што прыходзяць сярод ночы.***

***І тады адчую ранкам:***
***Ноч дала нам хваляванне,***
***Адчыніла ў сэрца брамку —***
***Адчынілася каханне.***

## Зямное

***Да маіх прытуліся грудзей***
***І адчуй, як спякота там б'ецца.***
***Пацалуй, не саромся людзей***
***І паслухай бясхмарнае сэрца.***

***А яно табе кажа — кахай***
***І ляці праз бязмежныя далі.***
***Яркай зоркаю там запалай,***
***Да якой мы яшчэ не ляталі.***

## Баравік з "баравічкамі"

Тэатр юнага гледача вітаў з 60-годдзем свайго былога галоўнага рэжысёра Рыгора Баравіка — вядомага пастаноўшчыка, педагога, мастацтвазнаўцу. Актыўнічалі не толькі цюгаўцы, але і студэнты Беларускага універсітэта культуры, дзе Рыгор Іванавіч выкладае. Фрагменты са спектакляў па А. Петрашкевічу, канцэртныя нумары, жарты вядучага Валерыя Анісенкі, песні цёпла ўспрымаліся публікай.

Юбіляра ганаравалі калегі па універсітэце (у тым ліку А. Сабалеўскі і А. Смолік), старшыні творчых саюзаў Р. Смольскі і А. Дудараў, пісьменнікі В. Вольскі, А. Дзялендзік, В. Жуковіч, прадстаўнікі Маладзёжнага тэатра, установ культуры, аднакурснікі і проста сябры. Шмат цёплых слоў сказалі "баравічкі" — былыя студэнты юбіляра. Адчувалася, што гэта не толькі словы, што настаўніка сапраўды любяць і памятаюць.

У астатнім усё было як звычайна: кветкі, падарункі, пацалункі... Сам віноўнік урачыстасці абышоўся без прамоў, але няблага праспяваў раманс, а ў фае былі выстаўлены яго жывапісныя работы.

Г. К.

## Кантэкст для каменя

З 12 снежня па 12 студзеня ў галерэі "А. В.", што пры тэатры "Вольная сцэна", скульптар Віктар Копач ладзіў выставу пад назвай "Дванаццаць месяцаў". Экспазіцыя складалася з 12 камянёў. Адзінаццаць з іх — пасярод фае на нізкіх пастаментах, дванаццаты з дзіркай і падвешаны пад столлю. Кожны камень сімвалізуе месяц, сабраныя па тры разам — пару года. Усе камяні розныя, за кошт рознай металічнай, так бы мовіць, "фурнітуры". Уласна кажучы, творам у дадзеным выпадку з'яўляецца не кожны камень паасобку, а кантэкст, экспазіцыя. Вядомае выслоўе, што "ў кожным камяні жыве скульптура, трэба толькі ўмець яе адтуль вызваліць", В. Копач трансфармуе такім чынам, што "вызваленне скульптуры з каменя" — справа гледача. Кожны пабачыць у камені, пазначаным як "снежань", "люты", "сакавік" і гэтак далей, свой уласны снежань, люты, сакавік...

У гэтым сэнсе кантэкстам для камянёў Віктара Копача становіцца чалавечае жыццё.

Пётра ВАСІЛЕЎСКІ

## "Пінская шляхта" не старэе

121-ю гадавіну з дня нараджэння заснавальніка беларускай драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча народны тэатр Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры сустрэў пастаноўкай знакамітай "Пінскай шляхты". Паставіў п'есу кіраўнік тэатра, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Валянцін Ермаловіч. Ён жа сыграў Кручкова.

У іншых ролях былі занятыя артысты тэатра І. Пушкін, М. Бацэвіч, Р. Ануфрыева, М. Лебедзева, Я. Клімуць і іншыя. Музыку да спектакля напісаў артыст тэатра А. Андрэйчыкаў. У спектаклі таксама гучалі беларускія народныя песні ў выкананні фальклорнага ансамбля цэнтра культуры "Верасневіца", якім кіруе Валянціна Фралова.

26 студзеня "Пінская шляхта" была паказана на сцэне Палаца культуры Магілёўскага завода штучнага валакна і мела вялікі поспех.

## Для таленавітай моладзі

Упраўленні інфармацыі, адукацыі і культуры Магілёўскага аблвыканкама аб'явілі конкурс сярод моладзі на лепшы твор у літаратуры, журналістыцы, на лепшы сцэнарый масавага мерапрыемства. У конкурсе могуць удзельнічаць маладыя таленты ва ўзросце ад 16 да 31 года.

Вынікі конкурсу будуць падведзены ў канцы сакавіка — пачатку красавіка. Узнагароджванне пераможцаў пройдзе на ўрачыстым вечары. Лепшыя творы канкурсантаў убачаць свет у спецыяльным зборніку.

Іван ПЕХЦЕРАЎ

*г. Магілёў*

МУЗЫКА

# Шчаслівы ўзлёт "Чыстага голасу"

***"Гук спяваючага голасу — адзін з самых салодкіх гукаў у свеце, самы пранікнёны, самы чароўны..." Да слоў класіка хочацца дадаць, што не меншае зачараванне здатна выклікаць суладнае, чыстае сугучча некалькіх галасоў. У гэтым я неаднойчы пераконвалася падчас канцэртаў вакальнай групы "Чысты голас".***

Не-не, я ні ў якім разе ніко́га не хачу пакрыўдзіць і не сцвярджаю, што, акрамя "Чыстага голасу", у нас няма годных калектываў, здольных прадстаўляць беларускую культуру за мяжой. Проста нельга ўявіць, што прыгажосць шматгалосся, вытанчанасць, далікатнасць інтэрпрэтацый беларускіх народных песень кагосьці пакіне абыякавым, як сярод нашых слухачоў, так і сярод замежных. Таму я лічу, што "Чысты голас" нароўні з іншымі высокапрафесійнымі калектывамі павінен несці на Захад і Усход, падкрэслю, у першую чаргу — беларускую культуру. А дзеля гэтага, канешне, мала некалькіх песень у рэпертуары. Вось каб іх была цэлая праграма, фрагменты якой рабіліся б абавязковай часткай усіх выступленняў ансамбля! Гэта дадало б павагі "Чыстаму голасу" не толькі за майстэрства музыкантаў, але і за пазіцыю як грамадзян сваёй краіны.



Такія спевы бяруць у палон не толькі дасканаласцю інтанацыі, высокай вакальнай культурай, багатай палітрай дынамічных адценняў, у якіх — і цеплыня, і пяшчота, і гарачыя ўсплескі эмоцый, але і магутнай энергіяй, што нібыта працінае і саміх музыкантаў, і публіку, ствараючы дзівосную еднасць.

Яшчэ адзін з сакрэтаў прывабнасці "Чыстага голасу" — гэта рэпертуар, у якім няма выпадковых твораў. Музыканты звяртаюцца да класічных узораў: ці то песні — народныя, аўтарскія, ці то акадэмічная музыка, духоўная... З аднаго боку, іх рэпертуар запраграмаваны на поспех, бо ўсё, што спявае "Чысты голас", — гэта, у асноўным, вядомыя, любімыя многімі творы. Але з іншага боку, тут ёсць і рызыка. Бо, выконваючы творы, якія ці не ва ўсіх на слыху, можна згубіцца сярод іншых іх выканаўцаў. Але, я ўпэўнена, гэта не пагражае "Чыстаму голасу". За некалькі гадоў працы на прафесійнай сцэне музыканты сцвердзілі свой стыль, выканаўчую манеру, імідж, якія, дарэчы, грунтуюцца на сур'ёзнай кансерваторскай школе.

Праўда, некаторых слухачоў, нават прыхільнікаў групы, бянтэжыць адзін нюанс. Мяркуючы па канцэртных выступленнях, запісах, у аснове рэпертуару квінтэта — рускія народныя песні, ва ўсялякім разе так было да нядаўняга часу. Не хочацца верыць, што беларускія музыканты свядома пакідаюць без увагі вялікі пласт роднага фальклору, ідуць па шляху найменшага супраціўлення, выбіраючы вядомыя рускія песні, з якімі, дзякуючы іх паўсюднай папулярнасці, лягчэй дамагчыся поспеху. Хаця, магчыма, "Чысты голас" проста аддае пальму першынства іншым ансамблям, якіх у нас даволі многа, якія даўно і з веданнем справы, па-творчы арыгінальна выяўляюць сябе на ніве беларускага фальклору. Дастаткова прыгадаць "Бяседу" і "Свята", "Палац" і "Крыві"... Але ж у інтэрпрэтацыі "Чыстага голасу" беларускі фальклор гучыць не менш цікава і зусім па-іншаму! Гэта адчуваецца ўжо ў выкананні некалькіх песень: "Ой, вяцёр вее", "Ой, сівы конь бяжыць"...

Хочацца спадзявацца, што музыканты разумеюць неабходнасць развіваць гэты творчы напрамак, бо нават некалькімі работамі пераканалі, як узбагачаюць яны нацыянальную выканаўчую культуру ў сферы фальклору. І яшчэ: хто як не спецыялісты з сур'ёзнай акадэмічнай школай павінны сваёй творчасцю спрычыняцца да справы даследавання, адраджэння, збірання і захавання нацыянальнага фальклору!

Не менш важны нюанс — папулярызацыя беларускай песні. Тры дзесяткі гадоў таму легендарныя "Песняры" распачалі гэтую высакародную справу. Дзякуючы ім у розных краінах свету даведаліся пра нашу багатую культуру, мову. Дык чаму б "Чыстаму голасу", калектыву, у якога, можна меркаваць, шматабяцальная будучыня, не ўзяць і на сябе гэтую місію? А то ўсё часцей апошнім часам, у прыватнасці, у Заходняй Еўропе, беларускае мастацтва асацыіруецца з вулічнымі музыкамі...

Годам нараджэння "Чыстага голасу" прынята лічыць 1991-ы. Менавіта тады ўзнікла назва групы, хаця ўжо да гэтага музыканты збіраліся ў клубе творчай моладзі, якім кіравала іх цяперашні дырэктар Людміла Чысцякова. Рэпеціравалі, удзельнічалі ў розных канцэртах. Дзякуючы гэтаму своеасабліваму падрыхтоўчаму перыяду на прафесійную сцэну хлопцы выйшлі ўпэўнена і адразу ўразілі сваёй адметнасцю. Як яе часам называюць, клапатлівая "другая маці" Людміла Чысцякова абяцала, што з часам група будзе адкрываць усё новыя і новыя творчыя грані. Так і адбываецца.

Не так даўно ў сталічнай Зале камернай музыкі прайшоў канцэрт, дзе артысты выканалі і сёе-тое з ранейшага свайго рэпертуару, і прэм'еры — у прыватнасці, жамчужыны заходнееўрапейскай класікі, творы Баха, Шуберта, Вердзі, Шумана, Шапэна. Прычым, гучала не толькі вакальная музыка, але і пераладжэнні інструментальнай. Напрыклад, выдатнае ўвасабленне атрымалі летуценны, таямнічы свет шуманаўскіх "Мрояў", рамантычная грацыёзнасць аднаой з шапэнаўскіх прэлюдый.

Выкананне гэтай музыкі вымагае глыбокага ведання і адчування стылю, тонкага разумення. З гэтым у "Чыстага голасу" усё выдатна, што засведчыў і прыём публікі, значную частку якой складалі замежныя госці. Сярод іх былі не толькі аматары, але і прафесіяналы-імпрэсарыо. І наколькі мне вядома, тады ж музыканты атрымалі запрашэнне ад іспанскага імпрэсарыо спадарыні Амба, якая прадстаўляе салідную заходнееўрапейскую фірму "Інтэрмузыка". Дарэчы, гэтая фірма ладзіць кантракты пераважна толькі з вядомымі артыстамі, напрыклад, адзін з такіх праектаў — арганізацыя на Захадзе гастроляў ансамбля танца Расіі пад кіраўніцтвам Ігара Маісеева. На Беларусі "Інтэрмузыку" зацікавілі "Чысты голас" ды Нацыянальны балет. Праўда, наш балет і так вядомы ў свеце, а ў "Чыстага голасу" з'явіўся добры шанц выйсці на прафесійную еўрапейскую сцэну, дзе існуюць свае традыцыі, эталоны, нават стэрэатыпы, якія не так лёгка пераадолець. Хутчэй за ўсё "Чыстаму голасу" давядзецца заваёўваць сэрцы заходняй публікі акадэмічным класічным рэпертуарам, бо выкананне народных усходнеславянскіх песень там асацыіруецца звычайна з гармонікамі, цымбаламі, балалайкамі.

Зрэшты, творчая група "Чысты голас" — гэта не толькі вакальны квінтэт. У яе складзе — баяніст Уладлен Немцаў, які, калі гэта бывае патрэбна, акампануе спевам, а часцей выступае сола. Яго віртуозныя інтэрпрэтацыі стылістычна разнастайных твораў, у тым ліку і класікі, удала дапаўняюць канцэртныя праграмы. Як вядома, слухачамі гэтых праграм ужо была не толькі айчынная публіка, але і замежная. Так, "Чысты голас" выступаў у еўрапейскіх краінах, і ў ЗША, і ў Індыі, але паездкі мелі пераважна характар пэўных місій. Музыканты прадстаўлялі Беларусь на розных імпрэзах і, паводле водгукаў у замежнай прэсе, вельмі дастойна. У прыватнасці, мінулай восенню на Сусветнай выставе "Экспа-98" у Лісабоне "Чысты голас" меў гонар удзельнічаць у адкрыцці стэнда Беларусі. Што ж, будзем лічыць гэтыя вандроўкі своеасаблівай разведкай перад вялікімі самастойнымі гастролямі.

Цяперашні рэпертуар ансамбля патрапляе абсалютна розным густам. Акрамя ўсяго згаданага, музыканты апошнім часам супрацоўнічалі з акцёрам Уладзімірам Гасцюхіным — разам падрыхтавалі вакальна-паэтычную кампазіцыю на аснове песень і вершаў ваеннай тэматыкі, паказаную на сцэне сталічнага Дома афіцэраў. Песні на ваенную тэматыку — такія вядомыя і ўжо крыху забытыя, бо цяпер іх пачуеш хіба толькі ў дзень святкавання Перамогі.

У "Чыстага голасу" яны загучалі па-новаму, пераствораныя ў шматгалосных акордах, якія ўзмацнялі сілу пачуццяў, што луналі ў зале. Сам канцэрт быў дабрачынны. Артысты прысвяцілі яго сталым людзям, і было зразумела па тварах слухачоў, што і спевы, і вершы ўскалыхнулі іх душы, бо ў многіх у вачах зіхацелі слёзы. Аднолькава кранаді і трапяткое, шчырае выкананне "Землянки", і зухаватае, бадзёрае "Ехал я из Берлина". Не была абыякавай да канцэрта і моладзь, якая прысутнічала ў зале.

А кожны з артыстаў паказаў сябе не проста ўдзельнікам ансамбля, а салістам. Звычайна такі строгі, глыбокі, фундаментальны бас Юрыя Рудзевіча нібы раскрыў крылы і "выправіўся ў палёт" па ўсім дыяпазоне, радуючы слых тэмбрам, багаццем абертонаў. Высокі тэнар Аляксандра Касціцына вабіў яркім і моцным гучаннем...

Зрэшты, усе канцэрты даюць падставы называць "Чысты голас" ансамблем салістаў. Прыхільнікі заўсёды чакаюць рамáнс Булахава "Не пробуждай воспоминанья", дзе саліруе выдатны тэнар Андрэй Пыжык. А як шырока і дынамічна, асабліва ў народных песнях, гучыць сола барытона Алега Сямёнава! Прыгожы, мяккі тэмбр голасу Валерыя Прыгуна, таксама барытона, дапаўняе палітру квінтэта. Яркія фарбы галасоў нібы пад чароўным пэндзлем мастака ператвараюцца ў вытанчаны твор, дзе кожны колер да месца і адрозніваецца ад іншых роўна настолькі, наколькі гэта дазваляе не парушыць гармонію ўсяго палатна. Пачуццё меры — адна з рысаў, якая гаворыць пра чысціню стылю і пацвярджае трапнасць назвы групы.

"Чысты голас"... Тут і творчае крэда, і сур'ёзная заяўка на высокую прафесійнасць, планка, якая павінна заўсёды трымаць у форме. Зразумела, што для падтрымкі формы патрэбны ўмовы. А іх, адпаведна, хтосьці павінен ствараць. Дык вось, "Чыстаму голасу" ў параўнанні з нашымі многімі артыстамі, з гэтым пашчасціла. Усімі праблемамі калектыву займаюцца Людміла Чысцякова і прэзідэнт грамадскай асацыяцыі "Мінск—Невер" Алег Герасімаў, якія з музыкантамі з самага пачатку (былі ля вытокаў стварэння групы). Хто ведае, як бы склаўся лёс калектыву, каб не гэтыя апантаныя сваёй справай людзі! Сваім захапленнем яны здолелі выклікаць цікавасць у мецэнатаў, якія бескарысліва дапамагаюць ва ўсім "Чыстаму голасу".

Гэтыя добрыя памочнікі — прэзідэнт ЗАТ "Белтэхэкспарт" У. Пефціеў і генеральны дырэктар А. Садавой — працягваюць добрую традыцыю, якая існавала здавён, але на нейкі час аказалася крыху забытай. Яе сэнс — у падтрымцы талентаў. Канешне, усім дапамагчы немагчыма, але хацелася б, каб высакародная справа была вартым прыкладам для пераймання.

Дзякуючы ўвазе і клопатам сваіх мецэнатаў удзельнікі групы "Чысты голас" маюць магчымасць засяродзіцца на творчасці, менш звяртаць увагу на дробязі, хаця праблемы побыту і заработнай платы дробязямі не назавеш, бо менавіта яны часам губяць самыя цікавыя і лепшыя творчыя памкненні...

Лёс аказаўся прыхільны да "Чыстага голасу", усё складваецца ўдала. У артыстаў ёсць свая публіка, у 1997 годзе яны адзначаны дзяржаўнай прэміяй "За духоўнае адраджэнне", удзельнічаюць у фестывалях, конкурсах, і паспяхова: Гран-пры Міжнароднага фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа", ганаровыя граматы Патрыярха Усяе Русі Аляксія II на IX Міжнародным фестывалі праваслаўнай музыкі ў Маскве. Выйшлі ў свет іх тры кампактдыскі і відэафільм на музыку А. Струмскага "Вялікае славаслоўе". Адна з самых важных і цікавых нядаўніх падзей у жыцці групы — удзел у святкаванні 100-годдзя Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра, дзе майстэрства нашых артыстаў атрымала найлепшыя водгукі з боку карыфеяў знакамітай тэатральнай сцэны Расіі.

Такім чынам, нягледзячы на яго адносную маладосць, у "Чыстага голасу" багатае мінулае і шматабяцальная будучыня. Так што застаецца пажадаць групе не спыняць натхнёнага творчага палёту да музычных вышыняў, напоўненых гармоніяй і духоўным святлом, і нягледзячы на вернасць агульнаславянскім традыцыям усё ж не страціць нацыянальную адметнасць, захаваць беларускасць.

**Таццяна ЯКУШАВА**

ВІНШУЕМ!

# Апошняй ролі не бывае



Беларускі тэатр можа пахваліцца многімі сапраўднымі талентамі, чыя творчасць увайшла ў скарбонку сусветнага тэатральнага мастацтва. Многія з імёнаў сталі легендамі, а ў дачыненні да некаторых ужо цяпер можна чуць вызначэнне "жывая легенда". І не таму, што акцёр перайшоў у разрад "экспанатаў" — не, для сапраўднага акцёра гэта немагчыма. Ён застаецца акцёрам, пакуль жыве. Проста яго творчасць успрымаецца не толькі як самакаштоўнасць, але як і жывая сувязь нас, сучасных гледачоў, з каштоўнасцямі вечнымі, якія не залежаць ад часу і абставін. Мы радуемся ўжо таму, што яны — сярод нас, што мы маем гонар таксама быць іхнімі сучаснікамі.

Павел Кармунін сыграў за сваё жыццё больш за 200 роляў — у тэатры і ў кіно. Найбольшую вядомасць ён набыў як вядучы артыст Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Тут, на гэтай сцэне, ён стварыў памятныя вобразы — Крыніцкага з "Паўлінкі", Лявона Зябліка з "Раскіданага гнязда" Янкі Купалы, горкаўскага Лукі, чэхаўскага дзядзькі Вані і многія іншыя. А між тым сам народны артыст Беларусі родам з Расіі, з вёскі Вялікія Ключы Зеленадольскага раёна Татарскай АССР. Воляю лёсу, дакладней, дзякуючы рэжысёру Льву Літвінаву, які з Казанскага тэатра перайшоў на працу ў наш купалаўскі і "перацягнуў" за сабой з Казані маладога таленавітага акцёра, Павел Кармунін трапіў на Беларусь. Акцёр разумеў, што мова, на якой ён зносіцца з гледачом, — гэта больш чым інструмент, яна павінна быць натуральнай часткай душы. І Павел Кармунін дасканала авалодаў беларускай мовай, і падтрымліваў славу Купалаўскага тэатра, як эталона літаратурнай беларускай мовы.

28 студзеня Паўлу Кармуніну споўнілася 80 гадоў. 1 лютага на сцэне купалаўскага тэатра зноў іграў вялікі артыст. Нягледзячы на тое, што ў апошнія гады практычна страціў зрок. Нягледзячы на тое, што за гэтыя гады былі і матэрыяльныя цяжкасці, і несправядлівыя крыўды, і адчуванне ўласнай непатрэбнасці.

Паўла Кармуніна віншавалі і працягваюць віншаваць многія і многія. Удзячныя "радавыя" гледачы і прадстаўнікі дзяржаўных структур, калегі па сцэне і тэатральныя крытыкі. Наша газета далучае свой голас да гэтага юбілейнага хору. Святло мастацтва, якое запаліў вялікі акцёр, зрабіла яснейшым жыццё для некалькіх пакаленняў гледачоў. Няхай жа цяпер удзячная любоў тых гледачоў асвятляе жыццёвы шлях артыста.

**Н. К.**

КОНКУРСЫ

# Поспех на Сіцыліі

***Пры канцы мінулага года яны сталі лаўрэатамі Міжнароднага конкурсу камернай музыкі ў італьянскім горадзе Кальтанесета. Ганна Гетманава і Насця Пазнякова, прыгожыя дзяўчаты, адзін позірк на якіх выклікае хваляванне, уразілі журы і слухачоў, вядома ж, не толькі абліччам, але і добрай ігрой на двух раялях. Вынікам сталася другое месца, занятае беларускімі піяністкамі. З імі пагутарыў няштатны карэспандэнт "ЛіМа".***



**— Колькі гадоў вы граеце разам?**

**Насця Пазнякова.** Мы не першы год граем у дуэце і даўно марылі з'ездзіць на міжнародны конкурс фартэпіянных дуэтаў. Атрымаўшы адрас і праграму конкурсу, з верасня пачалі рыхтавацца пад кіраўніцтвам нашага педагога Наталлі Іванаўны Ташчылінай, у якой мы займаемся з першага класа ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Сёлета я заканчваю акадэмію, Ганна вучыцца на 4 курсе.

**— Заняткі ў фартэпіянным дуэце — гэта факультатыў ці асабістая ініцыятыва?**

**Ганна Гетманава.** Асабістая ініцыятыва. Але цяпер гэта складае палову нашых заняткаў у класе па спецыяльнасці. У нас ёсць поспехі і як у салістак, і ў якасці ўдзельніц ансамбля.

**— І што граеце?**

**Н. П.** У сувязі з конкурснай праграмай мы ігралі шмат сучаснай музыкі: Міё, Лютаслаўскі, Дэбюсі... Але наш любімы кампазітар — Сяргей Рахманінаў. І на конкурсе ў Італіі мы ігралі Фантазію для фартэпіяна і І-ю сюіту, выкананне якой журы конкурсу адзначыла.

Конкурс праходзіў у горадзе Кальтанесета — у цэнтры Сіцыліі. Было 3 туры. На І туры, працягласцю 20 хвілін, мы ігралі Прэлюдыю і фугу Танеева і "Успамін пра Дон Жуана" Моцарта — Ліста. На ІІ туры (30 хвілін) ігралі "Канцэрціна" Шастаковіча і І-ю сюіту Рахманінава, ІІІ тур доўжыўся 45 хвілін, і нашу праграму складалі "Варыяцыі на тэму Паганіні" Лютаслаўскага, "Па белых і чорных" Дэбюсі, сюіта Міё "Скарамуш", "Фантазія" Рахманінава. На жаль, мы жылі ў іншым горадзе і паслухаць удзельнікаў конкурсу змаглі толькі на заключным канцэрце.

**Н. П.** Увогуле, на конкурс ехалі з прыгодамі. Грошай на паездку, як заўсёды, было мала, таму дабраліся "на перакладных" з Варшавы да Неапаля аўтобусам два дні, да таго ж, па дарозе аўтобус зламаўся, і доўга чакалі другі. Ад Неапаля да месца ехалі цягніком. У выніку мы спазніліся на пачатак конкурсу, але сакратарыят пайшоў нам насустрач, даў магчымасць іграць апошнім нумарам. Вось дзе адчувалася добрая падрыхтоўка, загартоўка і падтрымка Наталлі Іванаўны Ташчылінай. Мы атрымалі другую прэмію, і гэта вельмі значна для нас, бо конкурс уваходзіць у Швейцарскую асацыяцыю конкурсаў, што забяспечвае рэкламу і сведчыць пра яго высокі ўзровень.

**— А колькі краін было на ім прадстаўлена?**

**Н. П.** Каля 20-ці: Італія, Ізраіль, Егіпет, Расія, Германія, Францыя... Лаўрэатамі І прэміі сталі дзве паненкі з Германіі, ІІІ прэмію атрымалі хлопцы з Расіі (яны скончылі Маскоўскую кансерваторыю ў Сяргея Дарэнскага і цяпер займаюцца ў аспірантуры як фартэпіянны дуэт у Аляксандра Бахчыева). Мы заўважылі, што конкурсанты мала граюць класікі. Толькі нямецкі дуэт добра іграў санату Моцарта, у асноўным жа рэпертуар традыцыйны. Напрыклад, ужо згаданую Сюіту Рахманінава на ІІ туры ігралі пяць дуэтаў. Таму прыемна адзначыць, што наша выкананне прызналі лепшым. Наогул, больш іграюць кампазітараў-рамантыкаў і сучасную музыку.

**— Традыцыйнае пытанне: планы на будучыню?**

**Г. Г.** Хацелася б працаваць у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Мы разумеем, што залаў з двума раялямі на Беларусі мала, таму рыхтуем шэраг праграм для выканання ў чатыры рукі: Рахманінаў, Шуберт, Моцарт ды і інш.

**— Творчых вам поспехаў! І каб часцей траплялся залы з двума раялямі, і каб слухачоў на вашых канцэртах было шмат!**

**А. МІЛЬТО**

*На здымку: лаўрэаты міжнародных конкурсаў Ганна ГЕТМАНАВА і Настасся ПАЗНЯКОВА.*



## ЧАСАПІС

## Віншавалі калегі, сябры, вучні

**28 студзеня ў будынку філалагічнага факультэта БДУ сабраліся прадстаўнікі творчай і навуковай інтэлігенцыі Беларусі, вядомыя вучоныя, пісьменнікі, прафесарска-выкладчыцкі электарат факультэта з нагоды 70-годдзя Дзмітрыя Бугаёва — вядомага крытыка і літаратуразнаўцы, прафесара, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі. Сярод прысутных акадэмік НАН Р. Гарэцкі, першы намеснік дырэктара Інстытута літаратуры НАН С. Лаўшук, крытыкі і літаратуразнаўцы І. Чыгрын, М. Тычына, Я. Лецка, І. Жук, пісьменнікі В. Іпатава, С. Законнікаў. На чале з дэканам доктарам педагагічных навук Л. Мурынай прыйшлі ўшанаваць юбіляра прафесары і дацэнты факультэта А. Супрун, І. Шаблоўская, В. Рагойша, У. Навумовіч, І. Чарота, У. Кароткі, В. Красней, В. Літвінка, Л. Чумак і інш. Горача віталі свайго калегу па кафедры В. Казлова, Л. Сінькова, А. Бельскі, А. Верабей, В. Максімовіч, У. Рагойша, А. Пашкевіч, А. Шыловіч, Л. Карпава, В. Каратай.**

**Урачыстую вечарыну вёў член-карэспандэнт НАН, доктар філалагічных навук, загадчык кафедры беларускай літаратуры XX ст. А. Лойка.**

**Р. Гарэцкі ў сваім выступленні ахарактарызаваў Д. Бугаёва як аднаго з самых па-грамадзянску смелых і мужных крытыкаў, якія заўсёды быў верны ў жыцці свайму прафесійнаму абавязку. Выступоўца падкрэсліў неаспрэчную заслугу даследчыка ў літаратурнай рэабілітацыі творчасці М. Гарэцкага напрыканцы 60-х, высока ацаніў яго намаганні па вяртанні з небыцця і ўвядзенні ў шырокі літаратурны ўжытак шмат іншых імёнаў, якія сталі гонарам і сумленнем беларускай літаратуры.**

**Прысутныя шчодра дзяліліся сваімі ўспамінамі, з удзячнасцю, цёпла прыгадвалі шматлікія жыццёвыя эпізоды, з якіх вымалёўвалася высакароднае аблічча віноўніка ўрачыстасці, яго чалавечнасць, бескарыслівае жаданне падтрымаць чалавека ў самыя цяжкія і адказныя моманты жыцця. Прачулыя словы ўдзячнасці ў адрас юбіляра сказалі І. Чыгрын, С. Законнікаў, А. Пісьмянкоў.**

**Д. Бугаёў падзякаваў усім за высокае прызнанне яго сціплай працы, за добрыя словы і пажаданні сваіх калег, сяброў, вучняў. З асаблівай цеплынёй і ўдзячнасцю згадаў В. Быкава, І. Мележа, І. Чыгрынава, В. Барысенку, якім, па яго словах, ён многім абавязаны ў жыцці.**

**В. М.**

## "Роднае слова", N 1

**Пытанням суадносін школьнай адукацыі з жыццём грамадства прысвечаны роздум галоўнага рэдактара "РС" М. Шавыркіна. Пад рубрыкай "Пачынальнікі" А. Марціновіч разважае пра жыццё і творчасць А. Гурыновіча ("Будзіць і клікаць да жыцця..."). Апавяданне В. Быкава "Труба" прачытвае Д. Бугаёў ("Шматзначная ёмістасць апавядання"). Героі Я. Брыля, К. Акулы, П. Леві ў пошуках волі — тэма артыкула А. Данільчык "Шлях да зямлі запаветнай". Змешчаны таксама артыкулы Н. Каўпак "Гурба з белай спіною" (метафара ў паэзіі Р. Барадуліна), А. Клікунова "Адвечны крыж" (спроба разгляду паэтычнай спадчыны А. Гаруна ў кантэксце хрысціянскага светаўспрымання), В. Ляшук "Праблема палескай сям'і ў паэзіі Н. Мацяш", М. Чаеўскай "Як падрэзаны серпам колас..." (выяўленчая спецыфіка вобразнай сістэмы твораў Я. Нёманскага), А. Багамолавай "Фальклорнае вобразнае слова ў кантэксце жанру" (на прыкладзе народнай гульні "Жаніцьба Цярэшкі"), В. Буланды "Вывучэнне верша Рыгора Барадуліна "Бацьку" ў V класе", М. Мішчанчука "Кузьма Чорны. "Пошукі будучыні" (гісторыя напісання, пафас, праблематыка), В. Выхоты "Такі васпане — тычына шапкі не дастане" (сатыра ў паэме Я. Коласа "Новая зямля" і ў творах нямецкіх паэтаў), Т. Шамякінай "Культура класічнай Грэцыі", В. Скарабагатава "Паэзія Максіма Багдановіча ў творчасці беларускіх кампазітараў", Н. Матыліцкай "Дай кукольнічкі-сваявольнічкі..." (калядны і валачобны абрады на Случчыне), У. Содаля "Вугельчык з попелу" (пра Ядвігіна Ш.), "Аўтабіяграфія" І. Шамякіна, рэцэнзія А. Карлюкевіча на кнігу М. Мікуліча "Пошук вядзе ў глыбіню" ("Даследаванне духоўнага свету творчасці"), вершы У. Дзіско, іншыя матэрыялы.**

### "ЛіМ"—ФОТА

Гэты здымак зроблены некалькі гадоў назад у адной з воінскіх частей Мінскага гарнізона. Там народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін убачыў зброю, якая вельмі ж блізка нагадала яму колішнюю, часоў вайны, зенітную ўстаноўку. Убачыў і… расчуліўся. Нахлынулі ўспаміны пра сваё агнявое юнацтва, калі безадмоўная хуткастрэльная зенітка была ягонаю вернаю баявою сяброўкаю. І быццам памаладзеў Іван Пятровіч — расправіў плечы, выпнуў грудзі, падцягнуўся, нават ростам пабольшаў, нагадаўшы коласаўскага дзеда Талаша, які і праз шмат гадоў пасля сваіх баявых спраў гаварыў: "Го, я сеў бы на каня і паказаў бы яшчэ, чаго варт стары Талаш!" Іван Пятровіч, прыгадваючы там, у воінскай часці, гады сваёй баявой маладосці, таксама не стрымаўся, пахваліўся: "Сеў бы і сёння за зенітку і не сапсаваў бы снарадаў!.."

Дарэчы, тыдзень назад пісьменнік адзначыў свой семдзесят восьмы дзень нараджэння. "ЛіМ" і лімаўцы наўздагон віншуюць Івана Пятровіча, жадаюць яму моцнага здароўя, зычаць творчага настрою, нагадваюць, што ўжо даўнавата ягонае імя не з'яўлялася на старонках штотыднёвіка, што чытачы лімаўскія зачакаліся...

*Фота В. БЫХАЎЦА*



АНТАЛОГІЯ КРАЁВАГА ВЕРША

# Пружаншчына

Пружаншчына слаўная ўжо тым, што жыве там непрызнаны класік несавецкай беларускай літаратуры Мікола Купрэеў.

І, мабыць, усведамляючы гэта, людзі, пагадзіўшыся з прыродай, што "адыгралася" на адным, і не лезуць пішчом у афіцыйныя паэты, як тое здараецца скрозь і побач...

Перад намі вершы людзей, для якіх літаратура — душэўны роздых. Усе яны — і Пянко і Вароніч — паклалі свой педагагічны талент на выхаванне дзяцей, а Мікола Папека, якога я ведаю асабіста, — пчаляр "вышэйшай гільдыі", а яшчэ — няўтомны краязнаўца (са сваім прыватным музеем ва ўласнай, самім збудаванай, "фазэндзе") і ўвогуле — нацыянал-патрыёт сваёй Бацькаўшчыны...

Караццей, жывуць тут людзі па-боску, а пішуць па-людску.

Ды ніхто й не патрабуе ад самадзейнага гарманіста іграць класічную музыку. А вось — сваё, душэўнае, набалелае, гэта — калі ласка.

Паменей бы толькі сумных таноў. Але ў кожнага часу свая мелодыя.

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

### Емяльян ВАРОНІЧ



Нарадзіўся ў 1924 годзе ў вёсцы Грушава Кобрынскага раёна. Скончыў Брэсцкі педагагічны інстытут. Працаваў у школах дырэктарам, настаўнікам. Цяпер жыве ў вёсцы Харава Пружанскага раёна, працуе ў дзіцячым садку.

### Кіпрыёт

*Я падуладны ў сне спакусам,*
*Бягу за імі напралом...*
*Стаў раптам "новым беларусам",*
*Купіў сабе на Кіпры дом.*

*Жыццё тут весела праходзіць,*
*На пляжы пражыцца народ.*
*Заўважыў я: вачэй не зводзіць*
*З маёй каханай кіпрыёт...*

*Эге, і тут нячысцік шнарыць...*
*(Цікава, кіпрскі ён ці наш?).*
*Аднойчы бачу: жонка шпарыць*
*Употай ад мяне на пляж.*

*Я закрычаў: "Куды без мужа?*
*Прывабіў, можа, кіпрыёт?"*
*Прачнуўся... Жонка злая дужа:*
*— Чаго, — сіпіць, — разявіў рот?*

*Праз сон узяўся за размову,*
*Усё плявузгаў: "кіпрыёт"...*
*Устань ды выпусці карову*
*І выкінь гной на агарод!..*

### Мікола ПАПЕКА



Нарадзіўся ў 1961 годзе ў вёсцы Турная Івацэвіцкага раёна. Закончыў Смілавіцкі заатэхнічны тэхнікум і Украінскую сельскагаспадарчую акадэмію. Цяпер жыве ў вёсцы Лінова Пружанскага раёна, фермер-пчаляр.

### Вясковы краявід з індустрыяй

*Стаяць навокал велізарныя ёмістасці,*
*Пафарбаваныя сталёваю фарбаю,*
*Сельгасхімія стаіць*
*На месцы яшчэ недасушанага балота,*
*Каровы стаяць у хлявах і равуць,*
*Напоеныя атрутнаю вадою,*
*Чалавек стаіць над тою вадою*
*Ля жоўтага чоўна маладзіка,*
*У якім не даплыць*
*яму да гаючых дуброваў,*
*Да цёхкання салаўёў і кування зязюляў,*
*Да паветра, настоенага*
*на мёдзе і малацэ, —*
*Усё цяпер у велізарных ёмістасцях,*
*Пафарбаваных сталёваю фарбаю,*
*Пад сталёвымі воблакамі на небасхіле.*

### Мікалай ПЯНКО



Нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Клепачы Пружанскага раёна. Закончыў Барысаўскае педвучылішча і Брэсцкі педагагічны інстытут. Працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры, цяпер — на пенсіі.

### Было калісьці

*Гады праляцелі... А жыццё ж калісьці*
*Весела шумела зяляненькім лісцем.*
*І жылі хоць бедна і зналі нястачу,*
*Сонейка свяціла нам зусім інакай.*
*Весялей у лесе птушкі нам спявалі,*
*Гушкаліся промні*
*на жытнёвых хвалях...*
*Скрозь гучалі песні вольна і бадзёра*
*Іплылі над полем, над сасновым борам.*
*Пахлі мёдам кветкі і ляснык зёлкі,*
*Цешыў сэрца ў лузе голас перапёлкі.*
*Хлеб жа быў — смачнейшы,*
*і сардэчней — словы,*
*І былі чароўней у дзяўчатак бровы,*
*Пэўна, і кахалі саладзей калісьці...*
*Адляцелі годы залацістым лісцем...*

ВІНШУЕМ!

# Арсеню ЛІСУ — 65

Адных назваў асобных кніг Арсеня Ліса дастаткова, каб перакanaць у асноўных накірунках ягонай творчасці — "Бранісlaў Тарашкевіч", "Мікола Шчакаціхін", "Пётра Сергіевіч"... Арсень Сяргеевіч належыць да тых самаадданых, працавітых руплiўцаў на нацыянальнай ніве, якія імкнуцца як мага глыбей і ўсебакова спасцігнуць развіццё беларускай літаратуры і мастацтва, а на культурны працэс зірнуць у яго развіцці і адзінстве. Па пытаннях культуры А. Ліс пачаў выступаць з 1955 года. Тады ён, сын сялянскай сям'і, што жыла ў вёсцы Вётхава на Смаргоншчыне, вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1956 годзе. Пасля атрымання вышэйшай адукацыі выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Шаркоўшчынскай сярэдняй школе на Віцебшчыне, адначасова загадваў педагагічным кабінетам Шаркоўшчынскага раённага аддзела народнай адукацыі. У 1957 годзе перабраўся ў Мінск. Працаваў рэдактарам тагачаснага Дзяржаўнага выдавецтва БССР, вучыўся ў аспірантуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, абараніў кандыдацкую дысертацыю і звязаў дасledчыцкі лёс з гэтай навуковай установай. Першай кнігай А. Ліса і стаў нарыс "Бранісlaў Тарашкевіч", які выйшаў у 1966 годзе. Акрамя згаданых кніг, на творчым рахунку Арсеня Сяргеевіча такія, як "Купальскія песні", "Пякучы след маланкі", "Валачобныя песні", і іншыя. Высокую ацэнку атрымала дакументальна-мастацкая аповесць "Вечны вандроўнік", выпушчаная ў 1984 годзе выдавецтвам "Юнацтва" і адрасаваная ў першую чаргу вучням. А. Ліс стаў першым, хто так поўна і глыбока разгледзеў і асэнсаваў жыццёвы і творчы шлях выдатнага мастака Язэпа Драздовіча. Не прайшла незаўважанай і кніга "Песню — у спадчыну". У гэты зборнік увайшлі артыкулы пра Р. Шырму, А. Грыневіча, Максіма і Гаўрылу Гарэцкіх, а таксама пра іншых выдатных людзей Бацькаўшчыны. Арсень Сяргеевіч прымае дзейсны і актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і выданні акадэмічнага збору "Беларуская народная творчасць", стаў укладальнікам зборнікаў "Беларускія народныя песні", "Жніўныя песні", "Восеньскія і талочныя песні", "Купальскія і пятроўскія песні"... Поруч з іншымі, хто рупіцца аб выхадзе збору "Беларуская народная творчасць", А. Ліс у 1986 годзе стаў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР. А яшчэ ён аўтар сцэнарыяў дакументальных фільмаў. І ўвогуле, як і кожны таленавіты чалавек, пастаянна далучаецца ў сваёй творчасці да чагосьці новага. У гэтым лімаўскі чытач упэўніцца, калі пазнаёміцца з гэтым матэрыялам юбіляра. А мы віншуем Арсеня Сяргеевіча з 65-годдзем, зычым новых жыццёвых і творчых поспехаў!



# Пільсуцкі

Мянушка "Пільсуцкі", дадзеная дзядзьку Івану нейкім вясковым вастрасловам, прыляпілася да чалавека так надзейна, што ўласнае яго прозвішча для многіх як бы і не існавала, забылася. А калі і прыгадвалася яно, то адно пры нейкай афіцыйнай нагодзе: з прыходам позвы ад гміннага начальства або квітка на аплату падаткаў.

Па праўдзе кажучы, повады для таго, каб імем самога кіраўніка Польскай дзяржавы, маршалка Пілсудскага называць вётхаўскага селяніна, не было ніякага. Хіба можа адно, чыста знешняе. Праўда, што быў дзядзька Іван чалавекам рослым, дужым, мажным. Постаццю не схібіў. Але з твару, каб чым-небудзь упадобіць Івана Пільсуцкага грозна-мужнаму маршалку, з яго вусамі-стрэламі ды густымі, стрэшкаю брывамі, — было проста нельга. Шчыра зычлівая і нейкая крыху сарамлівая ўсмешка на абліччы выдавала ў дзядзьку Іване натуру лагодную, спакойную, нават безабаронную, нягледзячы на самавіты выгляд і цвёрды поступ. Не меў паважны вётхавец ніякіх не толькі палітычных, але, здаецца, і земляробскіх, гаспадарскіх амбіцый. Праўда, казалі, на касьбе з ім не мог ніхто зраўняцца. Падсілкаваўшыся на сняданне стосам наздраватых бліноў, гэтак штук пятнаццаць, з маслам, Іван Пільсуцкі мог даць касе належны размах. Ды толькі касілі тады, гэта добрага паўвека таму, у нас кожны па сабе і сенажаці той было не лішак. У канцы поля, над неглыбокай пакручастай рэчкай, званай Нурэц, у кожнага вётхаўскага гаспадара меўся свой невялікі поплаў.

Пасля веснавой паводкі, калі вада падступалася аж да аранага і хутка спадала, над рачнымі берагамі, у лозе з пачатку мая ў разнатраўі пышна пачынаў красаваць цветабой. Паўночны бераг рэчкі ад поля быў месцамі дзе болей, дзе меней падвышаны, меў схіл да рачной плыні. Па краі яго, аддзяляючы аранае поле ад сенажаці, бегла часам зусім над рэчкаю сцяжына. З яе аднае вясны і паказаў Іван Пільсуцкі маладой жонцы, прывезенай ім дзесь з-пад Беніцы, статнай, лёгкай хадою, постаццю Вольцы свой лужок.

— Вось, — маўляў, — наша з табой сенажатка.

Жэст рукі, пэўна, быў досыць шырокі, і гэта неўспадзеўкі падвяло нетутэйшую маладзіцу. З ёй неўзабаве здарыўся невялікі канфуз, было нялоўка перад суседкамі. Выткаўшы першыя свае ў мужыковай хаце кросны, Волька паспяшалася бяліць на майскім сонейку кужэльныя палатніны. Было зручна мачыць іх у рачной вадзе і тут жа вольна раскідаць сувой па кволай зеляніне і залацістым россыпе першых адуванчыкаў. Рабіла, як рабілі гэта ўсе. Аднак на другі ці трэці дзень зусім нечакана пачула ад суседкі, крыху старэйшай ад сябе жанчыны: "Ці табе, маладзічка, твой Іван не паказаў мяжы, дакуль яго сенажаць?.." І Волька з ніякаватасцю даўмелася, што ў вётхаўцаў сціплыя надзелы зямлі, на сваіх загонах-шнурах людзі сядзяць цесна прыцiснутыя адзін да другога.

У дзіцячыя ды падлеткавыя гады я часцяком наведваўся да Пільсуцкіх. У іх было двое дзяцей, старэйшая Вера і мой гадок Геня.

Сядзіба Пільсуцкіх знаходзілася недалёка ад нашай хаты, якраз пасярод Вётхава. З ладным гародчыкам перад вокнамі, светлая хата іх стаяла шчытом да вуліцы. За ёй у адзін сцяг размясціліся свіран, хлеў, падпаветка. Гумно, пастаўленае крыху воддаль ад астатняй будовы, перпендыкулярна да яе, замыкала агульны план сядзібы.

Падвор'е было нешырокае. Вёска вяла свой радавод ад параформенных часоў. Надзел бацькоў Пільсуцкага быў невялікі. Да таго ж яго давялося спалавініць на дзве роўныя дзялкі. На другой палавіне бацькаўшчыны за Іванавай сялібай з часам, з'ездзіўшы на заработкі ў Латвію, пабудаваўся яго малодшы брат. Ён таксама быў высокі, ладны, але слава знакамітага маршалка, няхай сабе з іранічным адценнем, на яго не падала. Каб вылучыць сярод вяскоўцаў, звалі малодшага брата Івана проста паводле імя маці — Макрынін Віцька.

Нядзельнымі днямі ў Івана Пільсуцкага збіраліся. Запомнілася чысціня і ўтульнасць хаты і яшчэ тое, што асэнсавалася не адразу: у Пільсуцкіх не толькі гаварылі, дзяліліся навінамі, але і чыталі. Кніжка не была госцем у Пільсуцкіх. Праз гады, скончыўшы універсітэт і збольшага азнаёміўшыся з таямніцамі грунтоўных бібліятэк, старых кнігасховішчаў, я ўразумеў, што вялікія кніжкі з уражлівымі чорнабелымі рысункамі, якія мы з Генем Пільсуцкім, яшчэ не ведаючы літар, гарталі ў іхняй хаце, былі падшыўкамі часопіса "Нива", выдаванага на пачатку стагоддзя ў Пецярбурзе.

У Пільсуцкіх ужо школьнікам сустрэў я і першую, выдадзеную адразу на вайне беларускую кніжку. "У мяцеліцу" Івана Мележа ў мяккай вокладцы, з постаццю спешанага конніка, з канём на повадзе ў мяне дзіўна асацыіруецца і сягоння чамусьці з брамкай пры старой ліпе, што пазначала сядзібу Пільсуцкіх. І кніжкі беларускіх літаратараў і часопісы "Беларусь", "Вожык" дзядзька Іван, як я пазней даведаўся, прывозіў з Маладзечна, дзе ён у форме чыгуначніка аж да пенсіі паддзяжурваў пры станцыйнай браме, што вяла з платформы ў горад.

Я сустракаў яго там, пры службовым абавязку, не раз, едучы з Мінска да бацькоў або кіруючыся зноў назад у сталіцу. На мой "Добры дзень" ён, няспешны ў рухах, падаваў руку і, як заўсёды, усміхаўся сваёй яснай, зычлівай усмешкай. Часам пытаўся, як ідзе вучоба, што чуваць у вялікім горадзе. Праз нейкі час бацькі мае з'ехалі з Вётхава на станцыю, каб на старасці гадоў быць бліжэй да дактароў, магазіна з хлебам, і я доўга не наведваўся ў Вётхава: з гадамі на сцежках маладосці надта элегічна адгукаецца сама яна ў сэрцы.

Чуў, што Іван Пільсуцкі хварэе. Геня па просьбе бацькі выносіць яго, ужо без абедзвюх ног, у сад пасядзець пад старымі яблынямі, паглядзець, як дагарае на захадзе сонца, паслухаць надвячоркам клёкат бацяноў на старой ліпе ў буслянцы, сапраўднай птушынай гаспадзе, адзінай на ўсё Вётхава. Я каторы ўжо час збіраўся наведаць родныя пенаты, ды той ці іншы клопат, работа заміналі, не пускалі. Выбраўся пазней таго, як наважыў.

У першы ж дзень прыезду ў Залессе схадзіў да старой царквы, дзе пад асलонай пракаветных сосен — месца вечнага спачыну маіх землякоў.

Яшчэ на пачатку 30-х, пытаючыся перад смерцю ў сыноў, ці хутка прыйдуць Саветы, перабраўся сюды мой дзед па бацьку Пётра. К канцу саракавых, ужо не чакаючы трох сыноў, якія ў 1917-ым падаліся ў Расію будаваць новы свет, там і прапалі, знайшоў тут вечны прыпын мамін бацька, дзед Юстын.

Часцей наведвацца на стары могільнік стаў я пасля таго, як аднаго зімовага дня пасля традыцыйнага абраду адвезлі мы сюды, у вечны пошум векавечных сосен, тую, што дала жыццё.

Гады прытушылі боль страты, і на гэты раз я ішоў да магіл спакойны.

Позірк міжволі спынялі пурпур і золата старых клёнаў на прысадах Агінскага, што ўсутык падыходзілі да старой царквы. Уласна самой будыніны храма ўжо даўно не было. На пачатку 60-х мясцовае начальства на загад з гары шукала людзей, што разабралі б старую царкву. Але нікога не знайшлося, хто ўзяўся б гэта зрабіць. Тады аднае ночы, якраз на Вялікдзень, казалі, яна ўспыхнула ярка, як свечка, і імгненна згарэла. Была на той час ужо нічыйная. Маліліся ў суседняй, што ў Міхнічах, вымураванай сто год таму назад па загадзе генерал-губернатара Мураўёва.

Старая ж, драўляная, векавала тут больш за тры стагоддзі. Згодна звесткам, знойдзеным у гісторыка-царкоўных аналах мастацтвазнаўцам Сендэрам Палеесам, паўстала яна яшчэ ў часы апошніх Гедымінавічаў, вялікіх князёў літоўскіх. Шэры сілуэт царквы прывідна праглянуў мне цяпер з пары юнацтва.

У напрамку, дзе стаяла яна, а цяпер зеўрала пусткай царковішча, пабалела крыжоў. Справа яны ўставалі асабліва густа. Сярод іх выразна вылучаўся новенькі помнік. Наблізіўся, і першы момант быў збянтэжаны. З авала фотаздымка на помніку ўсміхаўся сваёй адкрытай, зычлівай усмешкай дзядзька Іван Пільсуцкі. І гэта добрая, светлая ўсмешка яго задамінавала для мяне над самотай крыжоў, земной юдоллю, вечным пакоем.

У Вётхаве я застаў Геню Пільсуцкага ў бацькавай хаце. Сябра дзяцінства нямала пераняў ад бацькі: высокі рост, мужчынскую паставу, рахманы характар. Нешта бацькава і ва ўсмешцы. Толькі яна ў яго больш стрыманая, з хітрынкай, без той іскрыстасці, што ідзе з самой глыбіні душы. З Геневых слоў даведаўся пра гвалтоўны адыход дзядзькі Івана з жыцця.

— Не дагледзеў у садзе, як ён дацягнуўся да тоўстага яблыневага сука і засіліўся на папрузе, — сказаў Геня і адвярнуўся, каб няўзнак змахнуць скупую мужчынскую слязу. — Відаць, не было змогі больш цярпець, пакутаваць.

Мы пагаварылі пра жыццё. Геня Пільсуцкі цяпер жыў у Маладзечне. Маці перабралася ў Міхнічы да Веркі. Бацькаўшчыну, хату і ўсю будыніну Геня планаваў пакінуць лецішча. Уласна ён і прыехаў палетаваць тут, дагледзець сад.

Я напомніў яму пра кнігі і часопісы, што былі ў іхняй хаце, бацькаў кнігазбор. Ён неяк адразу, рухава азваўся на мой напамін:

— Хочаш? Пойдзем пагглядзім? — І стаў кіравацца да выхаду з хаты. Я спачатку не зарыентаваўся, чаму для прагляду бібліятэкі нам трэба пайсці на двор.

Геня павёў мяне ў свіран. Там асобна, пры левай сцяне на подсцілцы з дошак я ўбачыў перш-наперш ладнаватую груду часопісаў. З першага позірку на іх было відаць, што сярод тых даўніх чытанняў у хаце Пільсуцкіх яны ніколі мне не траплялiся на вочы. Былі гэта выданні даваенных і ваенных часоў. Сярод іх нечакана-радасна ўбачыўся віленскі літаратурна-навуковы квартальнік "Калоссе". Ён адразу кідаўся ў вочы, пазнаваўся па выяве постаці жнеі з малымі дзецьмі на яго вокладцы. Далей быў вытрыманы ў цёмна-зялёнай гаме, з фотаздымкамі ў "суровым стылі" акупацыйнага часу часопіс "Новы шлях" і першых паваенных гадоў "Беларусь".

— Што выдадзена пры палякаx, што пры немцах, што пры Саветах. Бацька неяк таіўся з гэтай літаратурай, і я не рашыўся браць яе з сабою ў горад, — прызнаўся Геня заадно, як бы пытаючыся рады, што з гэтым рабіць.

Быў пачатак 80-х, і я параіў даўняму сябру здаць гэты рознарэжымны бацькаў набытак у бібліятэку ў Мінску. Успомніліся словы дзядзькі Івана, што за яго жыццё "улась мянялася сама меней дзесяць разоў"...

Мінулі гады. Жыццё міжволі нязмушана вяртае да пражытага. Блукаючы ў думках па зямлі бацькоў, успамінаючы родных і землякоў, часта згадваю і дзядзьку Івана Пільсуцкага. Не-не ды думаецца пра тое, як ён са свайго сціплага сялянскага бюджэту яшчэ з даваенный пары патрапляў выкройваць залатоўку на "Калоссе", пазней маркі, рублі на тыя рознарэжымныя перыёдыкі. З выгляду ж быў простым беларускім рабачаем. Дарма, што Пільсуцкім звалі.

**Арсень ЛІС**



## ЧАСАПІС

### "Берасцейскія карані-98"

Зборнік гісторыка-краязнаўчых і літаратурных матэрыялаў "Берасцейскія карані" становіцца перыядычным выданнем. Напрыканцы мінулага года чытачы атрымалі чарговую кніжку, у якой побач з інтэрв'ю і артыкуламі кіраўнікоў і спецыялістаў народнай гаспадаркі вобласці змешчана багата літаратурных матэрыялаў. Цэлы раздзел адведзены асэнсаванню спадчыны Адама Міцкевіча, Уладзіміра Калесніка, надрукаваны ўрывак з п'есы Анатоля Крэйдзіча "Палескі Напалеон", у якой узнаўляюцца старонкі жыцця і творчасці Н. Орды. Паэзія прадстаўлена перакладамі Валерыя Грышкаўца, вершамі Івана Мельнічука і маладых паэтаў Васіля Барысюка, Ярыны Дашынай і іншых. У літаратуразнаўчым раздзеле Зоя Мельнікава, Аляксей Майсейчык і Уладзімір Лебедзеў аналізуюць творчасць Уладзіміра Караткевіча, Яўгеніі Янішчыц, Георгія Марчука. Кніжка добра праілюстравана, у ёй змешчана нямала звестак пра цікавыя мясціны Берасцейшчыны, яе гаворкі. Кніжка перасыпана народнымі прыказкамі.

Сымон АКСЕНІН

*г. Брэст*

### Засталіся вершы

Малады светлагорскі паэт Ігар Купрэеў загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Засталіся вершы. Сябры зрабілі ўсё, каб з імі, паэтычнымі радкамі, пазнаёміліся аматары паэзіі. Так нарадзілася гэтая кніга — "На первом вздохе".

У цэнтральнай гарадской бібліятэцы на чарговым пасяджэнні "Літаратурнай гасцёўні" адбылася прэзентацыя кнігі рана пайшоўшага з жыцця паэта. У ёй прынялі ўдзел сябры Ігара Купрэева, настаўнікі, члены літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце.

Вёў вечарыну паэт Ізяслаў Катляроў.

Васіль ТКАЧОЎ,
сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў

### З прарокаў Адраджэння

Антон Луцкевіч падзяліў лёс лепшых сыноў беларускага народа, якія сталі ахвярамі сталінізму. Арыштаваны 30 верасня 1939 года, ён, паводле афіцыйных звестак, памёр у зняволенні ў 1946 годзе. Паводле іншых сведчанняў, расстраляны ў чэрвені 1941-га, калі з наступленнем гітлераўцаў праводзілася эвакуацыя вязняў. 30 студзеня з дня нараджэння гэтага выдатнага нацыянальнага дзеяча, сапраўднага прарока Адраджэння споўнілася 115 гадоў. А. Луцкевіч выступаў як крытык, літаратуразнаўца, пішучы па-беларуску, па-руску і па-польску (нярэдка свае творы і кнігі падпісваў псеўданімам Антон Навіна), з'яўляўся адным з заснавальнікаў і фактычных кіраўнікоў газет "Наша доля" і "Наша Ніва", быў рэдактарам і выдаўцом зборнікаў паэзіі, публіцыстыкі, альманахаў. Па сённяшні дзень не страцілі вартасцяў такія яго кнігі, як "Белорусы" (1908), "На парозе да новага жыцця" (1912), "Эканамічная эвалюцыя і беларускі дух" (1917), "Польская акупацыя ў Беларусі" (1920), "Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры" (1921), "Вільня ў беларускай літаратуры" (1925), "За дваццаць пяць гадоў. Успаміны аб працы першых беларускіх арганізацыяў. Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. Беларуская Сацыялістычная Грамада" (1928), "Янка Купала як прарок Адраджэння" (1923), і іншыя.

Вядомы А. Луцкевіч і як палітычны, грамадскі дзеяч. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай Сацыялістычнай Грамады, заснаваў Беларускую сацыял-дэмакратычную работніцкую групу. Адзін з ініцыятараў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, а з кастрычніка 1918-га па люты 1920 года з'яўляўся старшынёй Рады народных міністраў БНР, народным міністрам замежных спраў. А. Луцкевіч адстойваў інтарэсы Беларусі на Парыжскай мірнай канферэнцыі. Заснавальнік і дырэктар Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні.

### Беларускі калегіум запрашае

*9 лютага* адбудзецца прэзентацыя гістарычнага альманаха "Athenaeum" з удзелам заснавальніка і рэдактара Алега Дзярновіча і гісторыка Ігара Лялькова.

*16 лютага* — прэзентацыя кнігі Юрася Барысевіча "Цела і тэкст".

*23 лютага* — Мікола Крывальцэвіч чытае лекцыю "Археалогія і палітыка".

Лекцыі адбудуцца ў Цэнтральнай бібліятэцы Я. Купалы (актавая зала) па адрасе: вул. В. Харужай, 16. Пачатак лекцыяў у 18.30.

*Дадатковую інфармацыю можна атрымаць па тэл. 256-36-13.*

ПОСТАЦІ

# Знаўца мамантаў

Бяскрайнасць прасторы і палохала, бо на фоне гэтай бязмежнасці асабліва балюча адчувалася, наколькі чалавек толькі малюсенькая часцінка ў тым агромністым і ніколі да канца нявытлумачаным, што называецца вечнасцю, і адначасова была па-свойму вабнай і прыцягальнай. Наколькі кінуць вокам, наўкола прасціралася тундра, якой, здавалася, не будзе канца-краю, і да самага гарызонту ляжала бясконцая снежная раўніна — ні дрэўца, няхай самага кволага, ні кусціка, хай бы і прыціснутага да цаліку сіберным ветрам. Толькі снег і снег... Да таго бялюткі, цнатліва чысты, што ад мільярдаў кропак-іскрынак, якімі гэтак ярка зіхацеў ён, міжволі хацелася зажмурыцца.

Канстанцін Адамавіч адхінуўся ад акна кібіткі. Хацелася расслабіцца, нават драмнуць. Балазе на гэта настройваў ціхі, ледзь адчувальны манатонны шоргат палазоў ды нудная песня каюра, якая доўжылася без перапынку гадзіну, а то і болей. Колькі ні знаходзіўся Валасовіч у дарозе, адчуванне было такое, што яна, гэтая песня, заўсёды адна і тая ж. Нейкая сцішана-прыглушаная, як бы роспачна-засяроджаная, у якой на першым месцы скарга на нялёгкую долю, на лёс нялітасцівы і цяжкі. Аднак гэта было не зусім так. Канстанцін Адамавіч паспеў крыху вывучыць якуцкую мову, таму ведаў, што каюры спяваюць аб убачаным наўкола, а таксама часам пра тое, што чакае іх наперадзе.

І гэты, імя якога ён запамятаваў, бо пры знаёмстве, заняты сваімі клопатнымі справамі, не надаў яму асаблівай увагі, радуецца, што зіма ўжо доўга не затрымаецца і хутка прыйдзе чаканая вясна. Як-ніяк, а сакавік на зыходзе. Праўда, тут, на Поўначы, вясна вельмі адрозніваецца ад той, што ў еўрапейскай частцы Расіі. Надараецца, і ў канцы красавіка бываюць лютыя снежныя завеі, але такая ўласцівасць чалавечай душы — пастаянна жыць новым, заўсёды спадзявацца на лепшае. Таму каюр і не хавае сваёй радасці, толькі выказвае яе па-свойму, так, што чалавеку недасведчанаму здаецца, быццам на сэрцы ў яго толькі туга і роспач... Да ўсяго трэба прывыкнуць. І да гэтых людзей, і да іх звычаяў, і да прыроды. І да тундры таксама.

Па-сапраўднаму тундра пачалася недзе пасля Верхаянска. Там і памянялі коней на аленяў, бо яны куды больш вынослівыя ў такіх умовах. А кіраваўся Канстанцін Адамавіч са сваімі таварышамі ў сяло Казачае, якое знаходзілася ў нізоўях ракі Яны і дзе да іх павінны былі далучыцца заолаг Я. Пфіцэнмаер і казак І. Растаргуеў. Растаргуеў у навуковых колах даўно лічыўся сваім чалавекам, бо суправаджаў не адну экспедыцыю. Без яго паслуг нельга было абысціся і пры правядзенні гэтай, арганізаванай Пецярбургскай акадэміяй навук у 1908 годзе на чале з Валасовічам, калі стала вядома, што на беразе ракі Санга-Юрах знойдзены астанкі мамантa. Пра знаходку ў Пецярбург паведаміў эвенк Дзьяконаў (Джэргелі), які таксама не ўпершыню дапамагаў вучоным.

Начальства, даручыўшы Канстанціну Адамавічу раскапаць астанкі, адначасова дало і іншыя заданні. Валасовіч павінен быў заняцца геалагічнымі даследаваннямі паўднёвых берагоў Ляхоўскіх астравоў, што адносіліся да Новасібірскага архіпелага, і тундры паміж рэкамі Ленай і Індзігіркай.

Да Іркуцка дабіраліся чыгункай, а адтуль — дзе водным шляхам, а дзе ў кібітках — да Якуцка, шлях з якога ляжаў у Верхаянск. Найбольш запомнілася дарога да Алдана. Ехалі ўздоўж Лены — прыгожай і велічнай у гэтых мясцінах. Тут яна паварочвае ў паўночна-заходнім кірунку і цячэ далей па ўзгорчатых перадгор'ях Верхаянскіх гор.

Пасля Верхаянска пачалася тундра. Не адразу, праўда, а паступова... Спачатку непрыкметна лес парадзеў, а праз некаторы час з дрэваў засталіся адны лістоўніцы. Чым далей рухаліся на поўнач, тым іх сустракалася менш і менш, ды і тыя былі нейкія хілыя, крывыя, з пакрытымі цёмным мохам стваламі, яны нагадвалі дзіўных істот, на якіх нечакана абрынуўся агонь, паспрабаваў спапяліць да тла, аднак яны здолелі выстаяць, выжыць, толькі засталіся пакалечанымі і вартымі жалю. Хутка на даляглядзе зніклі і гэтыя адзінокія лістоўніцы і пачалася тая бяскрайнасць прасторы, якая і палохала, і вабіла да сябе.

У Казачае прыбылі 22 сакавіка, а перад гэтым напаткалі якута Мікалая Гулімава. Ён праславіўся як цудоўны паляўнічы, выдатна ведаў тундру і Валасовічу быў добра знаёмы. Даведаўшыся пра мэту паездкі Канстанціна Адамавіча, Гулімаў ахвотна згадзіўся яго суправаджаць. У Казачым удакладнілі знаходжанне астанкаў мамантa — у сяло якраз з'ехалася шмат прамыславікоў, якія ведалі пра гэтую знаходку. Расказы іх дапамагалі Валасовічу лепш падрыхтавацца да далейшай дарогі і ўжо 1 красавіка ён разам з Пфіцэнмайерам і Растаргуевым пакінуў Казачае.

Да Санга-Юрахскай тундры заставалася прыкладна чатырыста вёрстаў. Ехалі хутка і гэты шлях пераадолелі за шэсць сутак. У Санга-Юрасе сустрэлі Джаргелі і казака Турунтаева, якія ахоўвалі знаходку да прыезду экспедыцыі. Валасовіч з таварышамі адразу прыступіў да раскопак, якія працягваліся тыдзень.

Мамант захаваўся добра, быццам з часу, калі ён загінуў, і не прайшло некалькі дзесяткаў тысяч гадоў. А ўсё дзякуючы вечнай мерзлаце.

Калі раскопкі былі закончаны, Валасовіч загадаў Пфіцэнмайеру даставіць прэпарыраваныя часткі мамантa ў Пецярбург, а сам прыступіў да выканання другой часткі задання гэтай экспедыцыі — пачаў вывучаць востраў Вялікі Ляхоўскі, даследаваць узбярэжжа, звярнуўшы найпершую ўвагу на горныя пароды. Толькі выканаўшы гэтыя работы, вярнуўся ў сталіцу...

У "БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ" (т. 2, 1970) аўтар артыкула пра Валасовіча А. Мельнікаў (Масква) сведчыць, што Канстанцін Адамавіч нарадзіўся 21 мая 1869 года ў вёсцы Старчыцы Старобінскай воласці Слуцкага павета. Гэтыя звесткі паўтораны і ў артыкуле, аўтарства якога не ўказана, "Беларускай Энцыклапедыі" (т. 3, 1996). Праўда, месца нараджэння Валасовіча называецца па сучаснаму адміністрацыйнаму падзелу: вёска Акцябр Салігорскага раёна. А вось В. Грыцкевіч у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі" (т. 2, 1994) сцвярджае, што Валасовіч родам з вёскі Ёдчыцы цяперашняга Клецкага раёна.

Каму верыць у такім разе? Несумненна — В. Грыцкевічу, які, дарэчы, першы шырока і грунтоўна расказаў пра Валасовіча ў нарысе "Па слядах мамантаў" (В. Грыцкевіч. "От Немана к берегам Тихого океана", Мн., 1986). А дапамагла В. Грыцкевічу быць аб'ектыўным біяграфія Валасовіча, напісаная яго сынам, геолагам Канстанцінам Канстанцінавічам Валасовічам (1909—1973).

Дарэчы, пра прозвішча... В. Грыцкевіч сведчыць: "У сям'і Валасовіча помнілі і пра другое напісанне свайго прозвішча — Валасевіч". У Ёдчыцах (цяпер вёска на мяжы Клецкага і Капыльскага раёнаў) Адам Валасовіч з'яўляўся хутчэй за ўсё прышлым. Якраз у сярэдзіне мінулага года ў Ёдчыцах, на загадзя насыпаным узгорку, пабудавалі драўляную царкву (захавалася і дзейнічае па сённяшні дзень, з'яўляецца помнікам драўлянага культавага дойлідства, ахоўваецца дзяржавай), а ў новаўтвораны прыход патрэбен быў свяшчэннік. Ім і стаў бацька Валасовіча.

Маці Канстанціна Адамавіча, у дзявоцтве Лісоўская, належала да шляхетнага роду.

Бацька настойваў, каб сын таксама пайшоў яго дарогай. Як быццам, Канстанціна ўдалося ўгаварыць і ён паступіў у Мінскую духоўную семінарыю. Але хутка ў выбары расчараваўся — не закончыўшы і першага курса здаў экзамены на атэстат сталасці і стаў студэнтам факультэта прыродазнаўчых навук Варшаўскага універстэта. Праўда, У. Сазановіч ("Сцежкамі мамантаў", "Голас Радзімы", 1988, N 45) сцвярджае, што Валасовіч усё ж скончыў духоўную семінарыю і паспеў папрацаваць псаломшчыкам у Бабруйскім і Наваградскім паветах і толькі пасля гэтага вырашыў атрымаць свецкую адукацыю.

Ва універсітэце пад кіраўніцтвам прафесара В. Амаліцкага Валасовіч вывучаў розныя геалагічныя дысцыпліны, хоць больш цікавіўся хіміяй. Не стаяў убаку ад рэвалюцыйнай барацьбы. На яго кватэры бывалі прадстаўнікі сацыял-дэмакратычных гурткоў Масквы і Пецярбурга. Валасовіч распаўсюджваў пракламацыі і падпольную літаратуру.

Універсітэт скончыў у 1892 годзе і атрымаў ступень кандыдата прыродазнаўчых навук. Дарэчы, за даследаванні ў галіне хіміі. Адразу ж пераехаў у Пецярбург, дзе працаваў у хімічнай лабараторыі Акадэміі навук, а потым у Лясным інстытуце. Па месцы асноўнай працы заробкі былі невысокія, таму Валасовіч адначасова ўладкаваўся хатнім настаўнікам у доме графа А. Стэнбока-Фермора, які ў той час з'яўляўся адным з самых багатых людзей Расіі.

Дапамога графа спатрэбіцца пазней, калі Канстанцін Адамавіч пачне займацца геалагічнымі даследаваннямі. Але пакуль пра гэта ён не думаў. Хацеў адысці ад рэвалюцыйнай барацьбы. Аднак "след" за ім цягнуўся яшчэ з Варшавы. І калі ў 1894 годзе там у рэвалюцыйных сацыял-дэмакратычных арганізацыях адбыліся правалы, звольніўся з працы, падшукаў новую кватэру. Ды царскія шпікі высачылі. Амаль два гады правёў за кратамі — у Петрапаўлаўскай крэпасці, а пасля ў Варшаўскай цытадэлі. Нарэшце зачыталі прысуд. За дзяржаўныя злачынствы адпраўлялі ў ссылку "пад нагляд паліцыі тэрмінам на тры гады".

З 1896 па 1899 год Валасовіч адбываў пакаранне ў Архангельскай губерні. Чым займаўся там, відаць з тэксту аднаго дакумента Архангельскага жандарскага ўпраўлення і архангельскага паліцмайстра: "За час знаходжання паднаглядняга К. А. Валасовіча ў г. Шанкурску і г. Архангельску яму быў дазволены выезд у Шанкурскі павет (Вялікамікалаеўскую, Ліпаўскую і Растоўскую воласці) для азнаямлення са смалакурэннем і шкіпінарнай вытворчасцю, на Мудзьюгскі маяк з навуковымі мэтамі, выязджаў таксама ў гарады Анегу і Кем".

Пытаннямі смалакурэння Валасовіч заняўся, відаць, усур'ёз, бо хутка даваў мясцоваму люду парады, як лепш зрабіць высокапрадукцыйныя печы, з якіх пры тых жа затратах можна атрымаць больш смалы і шкіпінару.

На гэты час прыпадае і пачатак яго геалагічнай дзейнасці. Якраз у Архангельскай губерні апынулася экспедыцыя, якую ўзначальваў добра вядомы Канстанціну Адамавічу прафесар В. Амаліцкі. Пад яго кіраўніцтвам Валасовіч вывучаў геалагічную структуру берагоў Паўночнай Дзвіны, дзе былі выяўлены марскія адкладанні паміж двума гарызонтамі валунных суглінкаў. Акрамя таго, даследаваў жывёльны свет Белага мора — такое даручэнне Валасовічу дало кіраўніцтва Заалагічнага музея Акадэміі навук.

Даволі хутка набыў вядомасць у навуковых колах. На яго звярнулі ўвагу пасля таго, як вынікамі сваёй працы па вывучэнні марскіх адкладаў на Паўночнай Дзвіне падзяліўся ў друку. У 1899 годзе Мінералагічнае таварыства дало Валасовічу невялікую субсідыю для збору калекцыі і даследавання чацвярцічных адкладаў на гэтай рацэ. Па завяршэнні работ ён напісаў свой чарговы артыкул.

Нарэшце, Канстанцінам Адамавічам зацікавіўся вядомы палярны даследчык Э. Толь, які рыхтаваўся да чарговай экспедыцыі на караблі "Зара". Як вопытны даследчык, які пабываў у розных складаных сітуацыях, ён загадзя пралічваў крытычныя моманты, што могуць узнікнуць падчас экспедыцыі. Калі судна будзе зацёрта льдамі, назад давядзецца вяртацца па лёдзе. Дарога, канечне, зойме шмат часу і, каб ўратавацца, трэба мець сем-восем прадуктовых баз, загадзя падрыхтаваных на розных астравах Новасібірскага архіпелага.

Толь прапанаваў Валасовічу прыняць удзел у Рускай Палярнай экспедыцыі ў якасці геолага і начальніка дапаможнай санкавай партыі. Канстанцін Адамавіч згадзіўся... Праз некаторы час пасля таго, як "Зара" адправілася ў плаванне, Валасовіч (а гэта было восенню 1900 года) таксама пакінуў Пецярбург. Праз Іркуцк, Якуцк і Верхаянск ён і прыбыў упершыню ў сяло Казачае, дзе наняў рабочых з карэннага насельніцтва. З імі арганізаваў некалькі дзесяткаў сабачых запрэжак, якія і павінны былі даставіць на астравы тоны прадуктаў.

Работа была працаёмкая. На месцы баз ствараліся невялікія пабудовы, каб, пры неабходнасці, можна было затрымацца ў іх на пэўны час. Толькі праз год Валасовіч паспяхова справіўся з заданнем, ускладзеным на яго Толем. З верасня 1901 года на востраве Кацельным адбылася іх сустрэча. Канстанцін Адамавіч паведаміў свайму непасрэднаму начальніку, што паспеў заняцца і геалагічнымі даследаваннямі. На востраве Новая Сібір яго зацікавілі выкапнёвыя марскія малюскі, пасля збору якіх з'явілася унікальная калекцыя. Толь высока ацаніў гэтую работу.

Сустрэча ў бухце Кацельнага стала не толькі радаснай. Час было думаць аб зімоўцы, якую дапаможная група вырашыла праводзіць з экіпажам. Правялі яе ў лагуне Нерпалах. Зімоўка працягвалася з 24 верасня 1901 года да 14 ліпеня 1902-га. Але гэта не значыць, што Толь на гэты час цалкам адмовіўся ад навуковай працы. Зблізіўшыся з Валасовічам і знайшоўшы ў яго асобе аднадумца па многіх пытаннях (гэтаму ў немалой ступені спрыялі навуковыя дыскусіі,

якія рэгулярна праводзіліся ў кают-кампаніі "Зары"), запрашаў яго ў так званыя "малыя экспедыцыі".

Яшчэ ў кастрычніку 1901 года Толь і Валасовіч па тундры праехалі больш чым сто вёрст вострава Кацельны, каб даследаваць яго геалагічную будову. 15 студзеня 1902 года адправіліся на мацярык па пошту для экспедыцыі. Шлях заняў чатыры тыдні — на сабачых запрэжках дабіраліся праз Малы і Вялікі Ляхаўскія астравы да мыса Чай-Поварне, што знаходзіўся на беразе праліва Дзмітрыя Лапцева.

У час паездкі Канстанцін Адамавіч захварэў. Толю нічога не заставалася, як загадаць яму ехаць у Якуцк, адкуль Валасовіч павінен быў адправіцца ў Пецярбург. Заадно Толь прасіў Канстанціна Адамавіча, каб той дамовіўся з уладальнікам парахода "Лена", што ў выпадку, калі "Зара" будзе зацёртая льдамі, ён даставіць да Якуцка ўдзельнікаў экспедыцыі, а таксама забярэ навуковыя матэрыялы.

Толь з Валасовічам развіталіся 25 лютага 1902 года. І падумаць не маглі, што больш пабачыцца ім ужо ніколі не давядзецца — Толя хутка не стала.

А Валасовіч у Пецярбурзе ажаніўся на Аляксандры Лаўровай, урачу па прафесіі. А паколькі здароўе пагоршылася (з'явілася падазрэнне на туберкулёз лёгкіх), з жонкай адправіўся на лячэнне ў Швейцарыю, дзе пазнаёміўся ў 1903 годзе з рускімі эмігрантамі, прымаў удзел у іх сустрэчы з У. Леніным. І не застаўся ўбаку ад рэвалюцыйнай барацьбы, аказаўся і ў шэрагу ўдзельнікаў першамайскай дэманстрацыі. За актыўнасць нават быў узнагароджаны спецыяльнай пунсовай шаўковай стужкай з сілуэтам рабочага.

Пра кантакты з рэвалюцыйнымі эмігрантамі стала вядома царскай ахранцы, і па вяртанні ў Пецярбург Канстанцін Адамавіч быў арыштаваны. Але Валасовіч загадзя прадугледзеў магчымае разгортванне падзей і нават склаў жонцы інструкцыю, як паводзіць сябе ў такім выпадку. Яна дачку Ніну адправіла ў фальварак Ніўкі пад Нясвіжам, дзе жыла сястра Валасовіча Юлія Адамаўна. За кратамі, праўда, знаходзіўся нядоўга, у канцы 1903 года быў вызвалены. Пачаў сістэматызаваць матэрыялы Рускай Палярнай экспедыцыі, каб перадаць іх для далейшага вывучэння і даследавання галіновым спецыялістам. Склаў геалагічную карту Новасібірскіх астравоў. Дапамагаў удаве Толя ў падрыхтоўцы да выдання яго дзённікаў, дапоўніўшы іх раздзелам аб апошняй экспедыцыі, а потым, у 1908 годзе, накіраваўся на раку Санга-Юрах...

І ПАСЛЯ ВЯРТАННЯ з экспедыцыі ў Пецярбурзе Канстанцін Адамавіч доўга не затрымаўся. Няўрымслівая душа пастаянна клікала яго ў дарогу. 20 красавіка 1909 года зноў быў у Верхаянску. І не адзін прыехаў, а з астраномам Я. Скварцовым і тапографам М. Іюдзіным. Гэтую экспедыцыю фінансавала Міністэрства гандлю і прамысловасці, якое збіралася адкрыць марскія зносіны паміж Ленай і Берынгавым пралівам, а дзеля гэтага і неабходна было правесці належныя даследаванні.

Праўда, у першапачатковыя планы давялося ўносіць карэктывы. Валасовіч са спадарожнікамі са спазненнем пакінуў сталіцу, а гэта адбілася і на тэрміне прыбыцця ў Казачае. Да ўсяго па дарозе з Якуцка займаўся геалагічнымі назіраннямі, што таксама затрымлівала. А тут якраз пачалася ў тундры вясна і ўзніклі новыя складанасці з далейшай дарогай. На горных схілах і ў дэльце Лены ўзняўся лёд на рэках. І гаворкі не магло ісці аб тым, каб выкарыстаць у тундры санны шлях, хоць на ёй снег яшчэ больш-менш трымаўся.

Валасовіч вырашыў спачатку правесці геадэзічныя здымкі і геалагічныя даследаванні ракі Яны і марскога ўзбярэжжа. Затым планаваў па снезе перабрацца ў дэльту Індзігіркі, каб ужо ўлетку прыступіць да здымкаў берагавой лініі паміж Індзігіркай і Янай і тэрыторыі, што знаходзілася на захад ад Яны, бліжэй да вусця Лены.

Хоць якуцкую мову ведаў слаба, але кантакт з старшынамі мясцовага Усцьянскага ўлуса, якія размаўлялі толькі па-якуцку, знайшоў. Растлумачыў ім задачы, што стаялі перад экспедыцыяй, і атрымаў сабачыя запрэжкі, якія прасіў. На іх па падталым снезе змаглі дабрацца толькі да невялікага сяла Рускае Усцье, што знаходзілася ў нізоўях Індзігіркі і ў якім знаходзілася ўсяго 9 дамоў. У ім жылі нашчадкі рускіх перасяленцаў.

Атрымаўшы сорак аленяў, падарожнікі 7 чэрвеня пакінулі сяло. Але радасць ад таго, што з перамяшчэннем справа хутка і лёгка ўладзілася, аказалася марнай. Якраз надышла пара лінькі аленяў, калі яны становяцца вельмі слабымі. Да ўсяго ішлі ледзь не па калені ў вадзе, ды і хутка нацерлі да крыві скуру ад вупражы. Давялося Валасовічу ў юкагіраў купляць новых аленяў.

Да цяжкасцяў і выпрабаванняў яму, зразумела, было не прывыкаць, але гэтая экспедыцыя асабліва вымотвала нервы. Адна непрыемнасць ішла за другой. На змену кароткай тундравай вясне прыйшло гэткае ж кароткае лета. У гэты час у тундры і людзям, і жывёлам не дае спакою жамяра, якая хмарамі носіцца ў паветры. Не дапамагалі ні раскладванне вогнішчаў, ні знаходжанне ў спецыяльнай палатцы, у якой таксама раскладвалі агонь, каб было больш дыму. Калі і наступаў паратунак, дык не надоўга. Лягчэй станавілася ў дажджлівыя дні ды пры змене накірунку ветру.

А ўвогуле, прырода пастаянна прыносіла адкрыцці. Ці шэнціла знайсці рэдкія расліны, ці ў час даследаванняў удавалася напаткаць адкладанні, пра якія дагэтуль не ведала навука. А тое, што ўбачылі паміж рэкамі Індзігіркай і Алазеяй, немагчыма было ўявіць нават у самай багатай фантазіі. У горным хрыбце Улахансіс убачылі дзіўныя гранітныя скалы, так званыя кекуры. На працягу сотняў тысяч гадоў вулканічныя пароды вывятрываліся, паверхня скал адшліфоўвалася і пры гэтым узнікалі фігуры неверагоднай канфігурацыі вышынёй да дзесяці, а часам і да дваццаці метраў. Спынішся поруч і ўражанне, што апынуўся ў загадкавым каменным лесе, які невядома як узнік пасярод тундры.

Тады і даведаўся Канстанцін Адамавіч, што ў якутаў сваё найменне гэтым фігурам — кісілях, што ў перакладзе азначае людзі. І сапраўды, месцамі яны нагадвалі людзей, якіх нейкая злая сіла прымусіла застыць у самых неверагодных і нечаканых паставах.

Работа была завершана восенню 1909 года. Па вяртанні ў сталіцу Валасовіч пачаў працаваць над манаграфіяй "Ленска-Калымская экспедыцыя 1909 года", у якой падагульніў вынікі даследаванняў, зрабіў неабходныя вывады. Хацелася працягваць вывучэнне Поўначы, ды абвастрыўся туберкулёз. Пасяліўшыся ў прыгарадзе Пецярбурга Лахце (маёнтак належаў А. Стэнбоку-Фермору), усё ж працаваў у Акадэміі навук. Здароўе не дазволіла самому адправіцца на Вялікі Ляхоўскі востраў, каб адкапаць там астанкі маманта, які быў знойдзены яшчэ ўлетку 1906 года.

Па сваёй ініцыятыве і на прыватныя сродкі Валасовіч накіраваў туды прамыславікоў. Раскопкі працягваліся два гады — з вясны 1910 года. Як высветлілася, захаванасць жывёліны, што ляжала ў мёрзлым грунце яшчэ з чацвярцічнай эпохі, куды лепшая, чым іншых, якія ўдалося адшукаць раней. Былі адкапаны амаль поўны шкілет, скура і чатыры ступні з падэшвамі і капытамі. Знаходка, паводле апісанняў Валасовіча, выглядала так: "У шкілеце няма правага біўня, каля паловы пазванкоў і рабрын, а таксама дзвюх касцей пярэдняй нагі. Вага левага біўня, зусім свежага і цэлага, 2 пуды. Скура добра захавалася і напалову пакрыта кароткімі густымі валасамі, што сведчыць аб гібелі жывёлы летам. Доўгая светла-бурая поўсць захавалася на нагах, асабліва на пярэдняй левай назе". Канстанцін Адамавіч прыйшоў да высновы, што "агульная колькасць скуры дазваляе зрабіць чучала жывёлы..."

Астанкі маманта з цяжкасцю і асцярожнасцю былі дастаўлены да Іркуцка, а адтуль па чыгунцы ў Пецярбург, а затым у Лахту. А. Стэнбок-Фермор для размяшчэння гэтага унікальнага экспаната заказаў спецыяльную лядоўню і Валасовіч змог прэпарыраваць астанкі.

Веды, вопыт яго спатрэбіліся пры правядзенні інжынерна-геалагічных работ пры рэканструкцыі Архангельскага марскога порта. Пазней зацікавіўся праблемамі чацвярцічнай геалогіі Паволжа і Кубані. А з 1917 года жыў у Есентуках — там яго жонка працавала ўрачом.

Жыццё выдатнага прыродазнаўцы, геолага, географа, хіміка (а менавіта так сведчаць пра Валасовіча аўтарытэтныя энцыклапедычныя даведнікі) абарвалася трагічна 25 верасня 1919 года. Канстанцін Адамавіч загінуў у час чыгуначнай катастрофы каля станцыі Бяспалаўка пад Харкавам. Ішла грамадзянская вайна і махноўцы здзейснілі сваю чарговую тэрарыстычную акцыю...

Тыя ж даведнікі называюць Валасовіча заснавальнікам чацвярцічнай геалогіі і палеагеаграфіі Паўночна-Заходняй Еўрапейскай Поўначы і Якуцкага Запаляр'я.

Чучала маманта, дастаўленага ў Лахту, цяпер знаходзіцца ў нацыянальным музеі гісторыі прыроды ў Парыжы.

Імем Валасовіча названы некаторыя выкапнёвыя расліны і жывёлы. Яно ўвекавечана ў назве мыса на паўночна-ўсходнім пабярэжжы вострава Кастрычніцкай рэвалюцыі ў архіпелагу Паўночная Зямля. А на радзіме...

Вёска Ёдчыцы знаходзіцца ўсяго ў двух кіламетрах ад Навасёлак (колішніх Крывасёлак) Капыльскага раёна, дзе я пражыў адзінаццаць гадоў, скончыў школу. Прызнаюся шчыра: да з'яўлення артыкула В. Грыцкевіча нічога пра Валасовіча не чуў. Не мог чуць пра яго, бо не ведалі тады пра свайго знакамітага земляка настаўнікі. Як і сёння, пэўна, не ведаюць...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

РЭЗАНАНС

# "Прыняты захады..."

## ДВА ЛІСТЫ НА АДНУ ТЭМУ

*Матэрыял Галіны Каржанеўскай (гл. "ЛіМ" за 27.11.1998 г.) невыпадкова меў падзагаловак "Падарожжа ў ганьбу". Гаворка ў ім ішла пра тое, што палац XVIII ст. у Жалудку разбурылі не час, войны ці прыродныя катаклізмы — ён нішчыцца літаральна на вачах сучаснымі вандаламі.*

*У сваім адказе штотыднёвіку міністр культуры далікатна абышоў пытанне юрыдычнай адказнасці ўласніка — лідскага завода "Конус" — за стан захаванасці помніка архітэктуры рэспубліканскага значэння. Не стаў ён і крывіць душой — прытварацца засмучаным ці занепакоеным з прычыны разбурэння (дакладней — рабавання) некалі цудоўнага будынка.*

*Пра тое, што канкрэтна зроблена за апошні час, якія прыняты захады "па прадухіленні пагоршання", вы даведаецеся з другога ліста — журналісткі са Шчучына. Так што ўстрымаемся ад далейшага каментарыя і прадаставім чытачам магчымасць самім рабіць высновы.*

●

Пытанне, узнятае карэспандэнтам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" адносна стану і перспектывы выкарыстання сядзібна-паркавага комплексу ў г. п. Жалудок Шчучынскага раёна, з'яўляецца актуальным у дачыненні шэрагу адметных гісторыка-культурных каштоўнасцей. Асноўнымі праблемамі іх зберажэння з'яўляецца складанасць у вызначэнні адпаведнага функцыянальнага выкарыстання, а таксама матэрыяльныя цяжкасці ўласнікаў па забеспячэнні належнага ўтрымання архітэктурнага помніка.

Разам з тым, Міністэрствам культуры праводзіцца работа па вырашэнні падобных складаных пытанняў. Адным з яе накірункаў з'яўляецца ўнясенне адпаведных палажэнняў у заканадаўчыя акты краіны, што рэгулююць правы ўласнасці, вызначаюць умовы падаткаабкладання. У якасці прыкладаў можна прывесці таксама як стварэнне ўмоў па прыцягненні пазабюджэтнага фінансавання на работы па тэрыторыі Верхняга горада, так і выкарыстанне сродкаў прыватных прадпрыемстваў праз раздзяржаўленне аб'ектаў гісторыка-культурнай спадчыны. Да шэрагу апошніх, у прыватнасці, можна аднесці будынкі на вул. Герцэна, 2, 2А, 4 і вул. Віцебскай, 10 у г. Мінску, а таксама прапрацоўку пытання патэнцыяльнага ўласніка па Косаўскім палацы.

Асігнаванні рэспубліканскага бюджэту, якія штогадова прадугледжваюцца на патрэбы аховы, рэстаўрацыі і захавання помнікаў даўніны, Міністэрства культуры бачыць мэтазгодным накіроўваць на найбольш вартасныя матэрыяльныя аб'екты спадчыны.

У адносінах да сядзібна-паркавага комплексу ў г. п. Жалудок прадпрымаюцца захады па прадухіленні ўласнікам пагаршэння фізічнага стану палацавага будынка і ў далейшым па вызначэнні сумесна з органамі мясцовага кіравання яго функцыянальнага выкарыстання і правядзенні прадугледжаных заканадаўствам рэстаўрацыйна-аднаўленчых работ.

**Міністр А. У. САСНОЎСКІ**

●

Паважаная рэдакцыя! Раскажу вам пра добрыя зрухі ў нашай агульнай справе, якая тычыцца палаца ў Жалудку. Райвыканкам вам наўрад ці адкажа. Вось калі вы ім накіруеце пэўную афіцыйную паперу, каб яны адрэагавалі, — тады яны пастараюцца...

Справай па-ранейшаму зацікаўлены Уладзімір Іванавіч Глаз, а цяпер яшчэ і наш дэпутат М. Бекіш. Апошні паклапаціўся і "выбіў" 40 лістоў фанеры і ДВП. 27 лістапада яны з Глазам арганізавалі брыгаду выратавальнікаў палаца — сабралі 22 мужчын з розных прадпрыемстваў горада: з масласырзавода, ААТ "Аўтаправод", хлебакамбіната, жалудоцкай бальніцы (быў нават адзін пажарнік — відаць, каб служба мёдам не здавалася). Словам, людзі там працавалі, як у часы Стаханава. Пазалатвалі дзіркі ў сценах, вокны (а іх — 50!) фанерай забілі, усё ачысцілі ад смецця, завалаў, тыя скрыні з жалеззем і сена прыбралі. Заўважце, Глазу ўжо 72, а ён працаваў, як малады. А дэпутат усіх так прыемна ўразіў! Кіраваў усімі работамі, імгненна вырашаў арганізацыйныя пытанні, не грэбаваў самай цяжкай і бруднай працай. Не ведаю, можа, прызначэнне дэпутата і ў іншым, але наш Бекіш — сапраўдны мужык. Глаз лічыць яго вельмі разумным, энергічным і дастойным ва ўсіх адносінах чалавекам.

Пакідалі палац на гэты раз без адчаю. Надзейна "закансервавалі" яго ад зімовага разбурэння, а вясной, дасць Бог, пачнецца сапраўднае аднаўленне. І калі гэта спраўдзіцца, то толькі Глаза ў тым найбольшая заслуга будзе. Дарэчы, "ЛіМ" я, газетчыца, у бібліятэцы шукала, а ён, заводскі дзядзька, аказваецца, дамоў выпісвае...

**Таццяна СТУПАКЕВІЧ,**
**супрацоўніца райгазеты "Дзянніца"**
*г. Шчучын*

ВАРУНКІ

Улас ДАРАШЭВІЧ

# Паэтэса

## РАСКАЗ АДНАГО КРЫТЫКА

***Для тых, хто забыў.* Улас Міхайлавіч Дарашэвіч (1864—1922 гг.) — пісьменнік-сатырык, публіцыст, нарысіст, тэатральны крытык. Адзін з самых дасціпных гумарыстаў пачатку XX стагоддзя, за што быў празваны “каралём фельетаністаў”. Шмат гадоў прайшло з часу напісання “Паэтэсы”, а гучыць вельмі сучасна.**

**Заўвага перакладчыка.**

— Да вас пан Пулямётаў.

Пулямётаў! Пулямётаў! Дзе я чуў гэтае прозвішча?

— Просіць прыняць іх на адну хвілінку. Кажуць, што па вельмі важнай справе.

— Ну, добра. Запрашай.

Уляцеў панок. У ім было нешта віхляючае. На твары было напісана:

— Не забі!

Ён аберуч ашчаперыў маю руку.

— Дзеля ўсяго святога, ведзі? Я вас не затрымаю! Я вам скажу, як роднаму бацьку! Мая жонка цяжарная і выпусціла кнігу!

Пан Пулямётаў схапіўся за галаву.

— Вы разумееце, гэта будзе наш першынец! Што Бог дасць — хлопчык ці дзяўчынка. Мы жанатыя восем гадоў, і дасюль не было дзяцей! Першынец! Першачок! Дайце мне вады! Вельмі ж я высмаг сёння... Вы прабачце мне, што я так хвалююся!

— Нічога... Нічога... Калі а заўтра яна пачне хвалявацца: “Ах, ён жа пра мяне нічога не сказаў! Ён пра мяне нічога не сказаў!!! І не захоча! Кніжка не спадабалася!” А доктар кажа: “Маленькае хваляванне — і...” Яна ж ад чакання скіне! Ці нельга на заўтра?

— Не магу абяцаць... Ведаеце...

— Дык жыццё ж чалавека! Даражэнькі!.. Жыццё чалавека! Каб вы яе пабачылі, яна такая слабая. Апошнія, апошнія дні! Вы разумееце, і ў гэты час...

даруйце, што адбіраю ў вас каштоўны час... Не затрымаю, не затрымаю!.. Вельмі, вельмі рады пазнаёміцца. Даўно хацелася. Заўсёды з такім задавальненнем... Проста жах — мы такія вашы прыхільнікі! Асабліва жонка! Проста закахалася ў вас. Раніцаю, яшчэ толькі вочы пралупіць, яшчэ ў пасцелі, адразу ж: “Дзе ён?..” Пра вас, значыць, а не пра штонебудзь іншае.

— Дзякуй, вялікі дзякуй... Вы ўжо залішне...

Пан Пулямётаў захіхікаў.

— Ці ведаеце, я ўжо нават раўную да вас. Дальбог!

— Вельмі вам удзячны. Дык чым магу?

Пан Пулямётаў закахана паглядзеў мне ў вочы.

— Даруйце за нясціплае пытанне. Вы жанатыя?

— Ды... не...

— А дзеці ў вас... Ах, вінаваты! Што гэта я!.. Хаця, я спадзяюся, вы з вашай фантазіяй! Вы зможаце зразумець становішча цяжарнай жанчыны!

— Я пастараюся. Дык што вы хацелі?

Пан Пулямётаў паглядзеў на мяне з мальбою:

— Вы атрымалі сёння вершы маёй жонкі?

— Ах, так, так, так! Ну як жа ж! Атрымаў кніжку, атрымаў! Дзе ж яна... А, вось! Дзякую, дзякую!

Пан Пулямётаў паглядзеў на мяне з трывогаю і мальбою:

— Вы не паспелі яшчэ іх прачытаць?

— Дык толькі ж дзве гадзіны назад?

— Прачытайце!

Мне здалося, што ў яго на вачах заблішчэлі слёзы.

— Вы мне дазволіце сказаць усё, шчыра, як на споласка!

Я наліў яму вады. Пан Пулямётаў выпіў, звонячы зубамі аб шклянку.

— Дзякую вам. Яна такая слабая. Доктар кажа: “Маленькае хваляванне — і...” А яна выпусціла вершы. Першы нядобразычлівы водгук — і яна скіне!

— Як гэта?

— Ну — дзіця скіне! Неданосіць і скіне. Богам малю! Як будзеце пісаць, майце гэта на ўвазе. Яна скіне!

— Н-да-а-а... Справа, ведаеце, сур’ёзная...

— Вядома! Жахлівая!

— Ведаеце... Я лепш... Я лепш увогуле пасцерагуся... Зусім нічога не буду пісаць!

Пан Пулямётаў ускочыў, быццам пад яго падсыпалі распаленых вугалёў.

— Дык вы ж яе заб’яеце! Богам малю!!! Яна толькі вашага водгуку і чакае! Яна кажа: “Мне ўсё роўна, што іншыя напішуць! Мне важна толькі тое, што ён!” Гэта пра вас! Сёння няма водгуку, заўтра няма водгуку, паслязаўтра няма — яна ж памрэ! Скажа: “Значыць, я дрэнь! І вершы мае дрэнь! Я нават і аднаго слоўца нявартая!” Яна памрэ! Доктар кажа: “Самае маленькае хваляванне...” Богам прашу! Не дзеля сябе прашу, нават не дзеля яе! Дзеля дзіцяці! Не загубіце дзіця!

— Ну што ж... Прабачце... Добра... Добра... Пастараюся... Ого, такі выпадак...

— Дзякую вам! Шчыры дзякуй! Ад усяго сэрца! А калі?

— Н-не ведаю... Як-небудзь гэтымі днямі...

— Ды вы што-о! Не адкладвайце! Дзеля нашага дзіцяці! Сёння мо яшчэ нічога,

— Ну добра... Пастараюся... На заўтра!

— Дарагі мой! Дзякую вам! Дазвольце вас пацалаваць! Вы мне прабачце, што я плачу! Калі будзеце пісаць, памятайце пра дзіця! Дзіця не забывайце! Больш нічога не прашу — толькі пра дзіця памятайце!

Ён вымачыў мой твар слязьмі, пакалоў барадою і пайшоў.

Не! Ён яшчэ раз вярнуўся, склаў, як у малітве, рукі, сказаў з парога:

— Пра дзіця! Толькі пра дзіця!

Усхліпнуў і знік.

Ну й ну... Як той казаў... А ўрэшце — чорт ведае, што такое...

Сорамна ж, вядома, займацца хоць бы чым-небудзь, калі ў тваіх руках чалавечае жыццё.

— Іван! Я сёння снедаць не буду! Можаш сам усё з’есці. У мяне важная справа! Не прымаць нікога. Хоць чорта, хоць д’ябла — нікога! Зразумеў? Бацька родны вернецца з труны — і таго не пускаць! Заняты вельмі важнаю справаю! У доме не стукаць, не кашляць.

Я ўзяў кніжку пані Пулямётавай.

У ёй было 762 вершы. Я ледзьве адолеў чатыры першыя і ўсеўся за пісьмовы стол.

— “Родная літаратура...”

А ці добра — “родная”? “Родная”... “Роды”... Дама ў такім становішчы... Хаця б яна які намёк не ўбачыла. Скажа: “Адкуль ведае?” Здагадаецца, што муж прыходзіў прасіць, расказаў. І скіне!

Дык нашто “родная”? Проста “руская”.

“Руская літаратура ўзбагацілася новым укладам...”

А нашто “укладам”? Не трэба “укладам”! Проста кнігаю...

— “...новаю добраю кнігаю”.

Добраю? А ці не пашкодзіць гэта немаўляці? Проста “добраю”? Слаба. Пакрыўдзіцца і скіне!

— “...новаю выдатнаю кнігаю”.

“Выдатнаю”. Гм... І слоўца ж нейкае! Яго цяпер ужываюць толькі з іроніяй. І выдумалі ж, каб на іх чэрці, гэтую іронію. Усе словы перапсавалі.

Як дзіцятка ўспрыме гэтае слова?

Проста замест “выдатнаю” пастаўлю “цудоўнаю”. “Цудоўнаю” дзіцяці не пашкодзіць.

— “...новаю цудоўнаю кнігаю...”

Новаю? Значыць, і да яе былі цудоўныя кнігі? Значыць, цудоўных кніг многа?

Не трэба “новаю”. Проста:

— “узбагацілася цудоўнаю кнігаю нашай таленавітай паэтэсы...”, “нашай высокаталенавітай паэтэсы”.

Падмасліць, падмазаць дзіця. Для немаўляткі гэта добра.

“Адсутнасць месцамі рыфмы...”

Мне здалося, што ў куткy запішчала, як перад сконам, дзіцятка.

“Усюды бліскучыя рыфмы...”

Малютка перастаў пішчаць.

“Здзіўляючая па прыгажосці форма, глыбокі змест...”

Гэта добра для парадзіхі.

У мяне пачаліся галюцынацыі, мне здалося, што я не пішу, а раблю вельмі цяжкую аперацыю. Я баяўся дакрануцца да паперы. Раптам з яе зацурчыць дзіцячая кроў?

Штосьці застагнала ззаду мяне.

Па пакої прайшоў Мікіта з “Улады цемры” і прамовіў:

— Захрусцелі костачкі... Захрупалі...

Потым на крэсле ўзнік Ірад, засмяяўся і прапаў.

Вакол мяне ляжалі немаўляткі...

Я баяўся заварушыцца. Крануся — і ўсіх перадушу.

— “З часоў Пушкіна, Лермантава, мы не сустракалі такіх вершаў”.

Скідвае! Скідвае!

— З часоў Аляксея Талстога, Някрасава...”

А ці не пакрыўдзіцца яна, што я Някрасава з ёю параўноўваю?

Жанчына ў такім становішчы!

Прэч Някрасава!

— “Байрана, Альфрэда Мюсэ...”

— “Падзея ў рускай літаратуры...”

— “Цудоўны дар...”

— “Вітаем...”

— “Дай Бог, каб і новую прычакаць!..”

Гэтую ноч я не спаў. Я ляжаў, абліты халодным потам. Зубы ў мяне ляскалі.

А раптам карэктарка замест слова “выдатны” падправіць на “выдаткі”?

І скіне!

Я маліўся, калі мне падалі газету, і я сказаў:

— Іван, разгарні сам, а то ў мяне рукі трасуцца.

Ва ўсіх газетах — да аднае! без выключэння! — былі вялізныя артыкулы пра зборнік вершаў пані Пулямётавай.

Усе газеты захлыналіся ад захаплення!

Адзін параўноўваў яе санеты з санетамі Петраркі. Другі пісаў, што неба глядзіцца ў яе вершы і ўсю прыроду прымушае ў яе глядзецца. Трэці ўсклікаў: “Не верыцца, каб гэта была жанчына! Вось бы была жонка для Пушкіна!”

Учора сустрэў пана Пулямётава ў тэатры.

Ён ажно ззяў, лётаў як падмецены. Паласаценькія штонікі на ім зіхцелі вясёлкаю, сурдут блішчэў шаўковымі адваротамі.

Ён мяне заўважыў:

— А! Шаноўны! Вельмі рады вас бачыць! Усё ніяк часу не мог выбраць вам падзякаваць! Вельмі, вельмі міла напісана!

Ён ласкава паківаў мне галавою.

— Ну, а як там у вас дома? — заікнуўся я.

У пана Пулямётава скрывіўся ад здзіўлення твар.

— Што дома? Дома нічога.

— Жонка ж ваша, здаецца, была...

— Ах, гэта...

Пан Пулямётаў махнуў рукою.

— Пранесла. Усё нармальна!

— Як гэта... прабачце... Я думаў...

— Не паверыце... Выявілася, што ўсё на нервовай глебе! Нервовая цяжарнасць. Бывае такое. Цяпер, ведаеце, нейкая эпідэмія... Усе дамы такія нервовыя парабіліся! Усё ўпустую. Каралёк — фальшывая трывога! — супакоіў ён мяне. — Але я вельмі рады, што крытыка знайшла ў жонкі такі талент. Вы чыталі? Ва ўсіх газетах! Усе водгукі поўныя захаплення! І, галоўнае, на другі ж дзень! Сёння кніжка выйшла, а назаўтра ж усе газеты прывіталі! Нешта нябывалае! Як быццам змовіліся. Ідзе кніга! Проста дзіва! На днях другое выданне абяцалі... Гэта жонку так падтрымала, прыдало ёй сілы. Гэтыя пажаданні, гэтыя просьбы крытыкаў працягваць, працягваць. Жонка цяпер п’есу піша. Вось паглядзіце! У гэты сезон не паспее, вядома. Але месяцаў праз дзевяць так, праз дзесяць...

Магу пабіцца аб заклад, што да першага прадстаўлення пані Пулямётава зноў зацяжарыць!

**Пераклад з рускай Паўла МІСЬКО**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

— Гэта, відаць, заморскія фрукты. А гэта, мабыць, не вельмі смачнае...

Ёсць ужо ў нас знатакі прадуктаў, якія ядуць па тэлебачанні.

●

Кандытарская фабрыка “Спартак”, кандытарская фабрыка “Камунарка”, піяніна фабрыкі “Чырвоны Кастрычнік”... “Рэвалюцыйныя” назовы ў харчовай прамысловасці, у галіне культуры ўсё яшчэ не абвалены, і рана спраўляць хаўтуры. Тут мы фармальна ці нефармальна на ўсё яшчэ на “праспекце Сталіна”. Дык якія ж назовы ўкладваем у дзіцячыя галовы!

●

Гальштук усяго толькі шыйны платок, а як многа значыць. У гальштуку ты, дружок, малаток, а без гальштука няўдачнік. Гальштукі (па-пратакольнаму, “краваты”) узялі на ўзбраенне дыпламаты. Скінулі краваты — гавары без сантыментаў, прасі — зразумею з паўслова. Сустрэліся без гальштукаў два прэзідэнты, адзін папрасіў у доўг, а другі адмовіў.

●

Уздыхнуў эмігрант, насунуў на лоб кепку: — Праўду скажу, каб не было звягі: добра вам тут, хаця жывяце вы кепска, добра нам там жывецца, хаця без нечага вашага — блага.

●

Бацькі і дзеці. З нетраў народа мы, талентамі багатага: Шмат у глыбінях сваіх народ накапіў. Стрэнеш недзе ў полі аратага, і не ведаеш, з бацькам якога славутага літаратара ты гаварыў.

●

Юбілейныя нататкі — як вандроўкі: нарадзіўся, памёр, займаў пасады, выдаў кніжкі. Калі меркаваць па нататках, галоўным паэтам быў у нас Броўка, а тады ўжо ішлі астатнія, такая была калібраўка. Не мне ўзначальваць Цэх паэтаў, а то ў юбілейныя броўчыны дні загадаў бы ўзгадваць усіх песнятворцаў, што пры ім засталіся ў цяні. І, можа, так сапраўды ўшанавалі б імя Броўкі.

●

— Чаго скруцілася тая лічынка, выгляд, як быццам, у ёй неблагі? — А яе доўга натхнялі на рашучыя ўчынкі, сказалі, што варта толькі папаўзці, а з якой пачынаць не сказалі нагі.

●

Век самалётаў вызначаюць пасадкі, а не палёты. А тваім вершам, паэт, які наканаваны век пасля ўзлётаў?


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ —** ***намеснік галоўнага рэдактара,***
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ —** ***першы намеснік галоўнага рэдактара,***
**Віктар ШНІП —** ***адказны сакратар***

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

| | |
|---|---|
| прыёмная рэдакцыі — | 284-8461 |
| намеснікі галоўнага рэдактара — | 284-8525, 284-7985 |
| АДДЗЕЛЫ: публіцыстыкі — | 284-8204 |
| пісьмаў і грамадскай думкі — | 284-7985 |
| літаратурнага жыцця — | 284-8462 |
| крытыкі і бібліяграфіі — | 284-7985 |
| паэзіі і прозы — | 284-8204 |
| музыкі — | 284-8153 |
| тэатра, кіно і тэлебачання — | 284-8153 |
| выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — | 284-8462 |
| навін — | 284-8462 |
| мастацкага афармлення — | 284-8204 |
| фотакарэспандэнт — | 284-8462 |
| бухгалтэрыя — | 236-6071 |

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3866.
Нумар падпісаны ў друк 4.2.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 533/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12